# БЯРОЗКА

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

Штомесячны дзіцячы часопіс
Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ

№ 12
СНЕЖАНЬ 1946 г.
Выдавецтва ЦК ЛКСМБ


## Новы год



Па шляхах, барамі, доламі,
Праз палі па родным краі
Новы год ідзе, вясёлаю
Песняй так дзяцей вітае:

— Я нясу вам гурбы снежныя,
Кніжкі новыя і мары,
А дарогам—даль бязмежную,
А нябёсам—дні без хмараў.

— Я нясу вам хаты новыя,
Ласку матчыну і казкі,
А зямлі—дажджы вясновыя,
А барам і долам—краскі.

— Прынясу я дні руплівыя
І маторам гул бясконцы,
Каб будоўлі ў дні шчаслівыя
Узняліся аж да сонца.

— Усё сваёй рукою дужаю
Я змяню, ўпрыгожу, ўслаўлю,
Горы ка́менныя здужаю
І для вас палац пастаўлю.

— А ў палацы тым чароўныя
Я складу вам песні-дзівы,
Каб мяне вы доўга помнілі
У жыцці сваім шчаслівым.

*К. Кірэенка.*

— *Бабуля, не забудзь!*

Мал. М. Худзяка.

# Вялікая Сталінская Канстытуцыя

Канстытуцыя—асноўны дзяржаўны закон. У ёй запісаны правы і абавязкі народа.

Новая Канстытуцыя Совецкай дзяржавы створана пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна ў 1936 годзе. Яна была абмеркавана і ўхвалена народамі Совецкага Саюза. 5 снежня таго-ж года надзвычайны VIII з'езд Советаў прыняў гэтую Канстытуцыю і зацвердзіў яе.

Канстытуцыя Совецкай дзяржавы дае працоўнаму народу самыя шырокія правы. Працоўныя самі кіруюць сваёй дзяржавай. Яны ўваходзяць ва ўсе органы ўлады, пачынаючы ад сельскага совета і канчаючы самым вышэйшым органам улады—Вярхоўным Советам СССР.

Кожны грамадзянін СССР мае права на працу, на адпачынак, на асвету, на дапамогу ад дзяржавы па старасці і іншыя правы.

У склад СССР уваходзіць каля 60 нацыянальнасцей. Усе народы Совецкага Саюза маюць роўныя правы, жывуць у брацкай дружбе; усе яны дружна будуюць сваю совецкую дзяржаву.

Гэтыя вялікія правы працоўных навечна запісаны ў Канстытуцыі, якую ўвесь совецкі народ па праву называе Вялікай Сталінскай Канстытуцыяй.

Працоўныя нашай краіны з найвялікшай радасцю сустрэлі Сталінскую Канстытуцыю—вялікі закон, у якім запісана ўсё тое, чаго дасягнуў наш народ пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі пры совецкай уладзе.

Кожны год мы адзначаем дзень 5 снежня, як дзень усенароднага свята, дзень Вялікай Сталінскай Канстытуцыі.

Ні адна буржуазная дзяржава ў свеце не дала і не можа даць працоўнаму народу такіх правоў, якія мае совецкі народ. Канстытуцыі буржуазных дзяржаў абараняюць правы і інтарэсы багатых. Працоўны народ у гэтых краінах бяспраўны, ён прыгнятаецца памешчыкамі і капіталістамі.

Разам з вялікімі правамі Сталінская Канстытуцыя ўскладае на грамадзян СССР і высокія пачэсныя абавязкі.

Першы пачэсны абавязак грамадзян СССР—працаваць, быць актыўнымі і карыснымі ўдзельнікамі ў будаўніцтве сваёй дзяржавы.

Другі пачэсны абавязак грамадзян СССР—няспынна мацаваць абарону сваёй Радзімы і самааддана абараняць яе ад ворагаў.

Грамадзяне СССР з гонарам выконваюць свае пачэсныя абавязкі.




Дзень Канстытуцыі сягоння,—
Вялікі дзень, святочны дзень!
Народ, што быў вякі ў прыгоне
І блукаў без пуцця, як цень,—
Ён вольны гаспадар сягоння.

Так мудры Ленін, мудры Сталін
Прыдбалі долю для людзей,
Адкрылі сонечныя далі,—
Адно да дна піць шчасце ўмей,
Як вуча Ленін, вуча Сталін.

Янка КУПАЛА.

# ВЯЛІКІ ПАЛКАВОДЗЕЦ

*З артыкула Маршала Савецкага Саюза Ф. І. ТАЛБУХІНА*

Я, рэбяты, спачатку напомню вам тое, пра што, напэўна, усе вы ведаеце. 9 лютага 1946 г. таварыш Сталін, выступаючы перад выбаршчыкамі Сталінскай выбарчай акругі Масквы, сказаў: «...Чырвоная Армія геройскі вытрымала ўсе нягоды вайны, наголаву разбіла арміі нашых ворагаў і выйшла з вайны пераможцай.» Толькі сказаў ён гэтыя словы, як у зале нехта голасна крыкнуў:

— Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна!

Не ведаю, хто гэта крыкнуў. Але ведаю, што вокліч гэты вырваўся з самай глыбіні душы. Усе, хто прысутнічаў, адказалі на яго громам апладысментаў. Апладыравалі і мільёны людзей, якія слухалі правадыра па радыё.

Сталін і перамога — непадзельны: дзе Сталін — там абавязкова перамога!

Як камандуючы войскамі фронта, я знаходзіўся ў прамым падпарадкаванні ў таварыша Сталіна. Непасрэдна ад яго атрымліваў я загады, указанні, парады. Расказаныя тут эпізоды дапамогуць вам лепш зразумець і ацаніць, якімі выключнымі ваеннымі ведамі, якой сілай прадбачання валодае Генералісімус Сталін.

Мяне заўсёды здзіўлялі ў таварышу Сталіне яго дасканалыя веды аб становішчы на франтах. Ён ведаў абстаноўку на любым участку— а фронт, як вядома, цягнуўся на 3.000 кіламетраў! — ведаў так дакладна і падрабязна, быццам сам быў усюды. Рашэнні яго былі выключна смелымі і нечаканымі для ворага.

Успамінаецца жнівень 1943 года. Я тады камандаваў Паўднёвым фронтам. І вось атрымліваю загад таварыша Сталіна перайсці ў наступленне на Міўскія пазіцыі (так называлася ўмацаваная абарона немцаў на рацэ Міус).

20 жніўня наступленне пачалося. Мы прарвалі абарону немцаў і прайшлі 20 кіламетраў, але потым супраціўленне немцаў узмацнілася, і мы вымушаны былі спыніцца. Вораг перакінуў на наш фронт пяць тан-



*К Новаму году выхаванка Мінскага дзетдома № 7 піянерка Нэля Гербавіцкая скончыла вышыўку партрэта таварыша І. В. Сталіна. Сваю работу яна паслала ў Маскву ў падарунак любімаму правадыру.*

кавых дывізій, якія да гэтага стаялі супроць войск генерала Ватуціна.

Я паведаміў таварыша Сталіна, што задача выканана, і пры гэтым дадаў, што раніцою немцы, відаць, нанясуць нам галоўны ўдар сваімі свежымі танкавымі дывізіямі. Таварыш Сталін заўважыў, што трэба берагчы войскі, і прапанаваў адвесці іх. Я выканаў загад.

Як і меркавалася, на другі дзень немцы зрабілі значнае контрнаступленне. Дзве гадзіны абстрэльвалі яны няспынным агнём нашы пазіцыі. Але... дождж снарадаў падаў на пустое месца— нашых войск даўно ўжо там не было!

А ў гэты час нечакана для ворага перайшоў у паспяховае наступленне генерал Ватуцін. Немцы спахваціліся, спешна пачалі перакідваць танкавыя дывізіі, але было позна. Яны страцілі галоўнае — час.

Гэтая аперацыя прывяла яшчэ да аднаго выніку. Даведаўшыся, што я адвёў войскі, немцы рашылі, што наш фронт не боездольны, і паслабілі супроць нас свае сілы. Дорага абышлася ім пасля гэтая памылка!

Як далёка наперад глядзеў таварыш Сталін! Дзякуючы яго рашэнню, нам удалося захаваць свае войскі, і роўна праз месяц, 20 верасня, мы перайшлі ў рашучае наступленне.

На гэты раз зноў былі прарваны Міускія пазіцыі, ударам на поўдзень узят горад Таганрог, а на поўначы вызвален горад Сталіна. За 40 дзён войскі Паўднёвага фронта вышлі на Дняпро і закупорылі ворага ў Крыму.

Таварыш Сталін уважліва сачыў за нашымі дзеяннямі. Неяк ён пазваніў мне і сказаў, што не варта спяшацца з Крымам. Трэба, сказаў ён, чакаць добрага надвор'я, лепш падрыхтавацца, а тады ўжо дзейнічаць. Гэтым мы зможам пазбегнуць лішніх страт у людзях.

Так мы і зрабілі. За зіму натрэніравалі войскі, пабудавалі і навялі цераз Сіваш два масты, а 9 красавіка 1944 года, з надыходам вясны, уварваліся ў Крым. К сярэдзіне мая Крым быў поўнасцю вызвалены, а рэшткі разгромленай нямецка-румынскай арміі трапілі да нас у палон. Калі мы вызвалялі Крым, таварыш Сталін часта званіў мне па тэлефону, праўляўся аб стратах, цікавіўся, ці ўсё ў нас ёсць для таго, каб паспяхова наступаць. Ён патрабаваў, каб кожны ўдар быў дакладна прадуманы і падрыхтаваны.

Калі здаралася, што мала было боепрыпасаў, таварыш Сталін казаў: падвязуць боепрыпасы — тады зноў наперад.

Я прагна вучыўся ў таварыша Сталіна вытрымцы, уменню выбраць момант для нанясення ўдара, яснасці ўказанняў, вучыўся берагчы кожнага чалавека.

Пасля Крымскай аперацыі я быў назначаны камандуючым 3-м Украінскім фронтам. Тады мы займалі пазіцыі на рацэ Днестр.

У ліпені 1944 года таварыш Сталін выклікаў да сябе мяне і камандуючага 2-м Украінскім фронтам Маліноўскага. Ён паставіў нам задачу: прарваць абарону ў раёне Яс і поўнасцю акружыць нямецкую групіроўку. У гэтай аперацыі, па прапанове таварыша Сталіна, была здзейснена, у буйных маштабах, ваенная хітрасць: нашы войскі пачалі наступленне зусім не там, дзе меркавалі немцы.

Мы прарвалі абарону паўднёвей г. Бендэры і імкліва пайшлі на злучэнне з войскамі Маліноўскага.

Пакуль вораг апамятаўся, пакуль войскі яго кідаліся з боку ў бок, усё ўжо скончылася: немцы апынуліся ў «мяшку». Гэтая аперацыя была расцэнена таварышам Сталіным, як адна з выдатных ваенных аперацый на акружэнне і знішчэнне ворага.

Тое, што я расказаў, гэта—асобныя дэталі велізарнай працы таварыша Сталіна па кіраўніцтву нашымі войскамі. Мудрасць і цвёрдую руку правадыра, яго бацькоўскі клопат аб людзях бачылі і адчувалі на кожным кроку ўсе мы — ад камандуючага фронтам да радавога байца.

Многія з вас, рэбяты, праз некалькі год апрануць мундзір воіна Совецкай Арміі. Гэта вельмі вялікі гонар. Але мне-б хацелася, каб побач з законнай гордасцю вы зразумелі і тую вялікую адказнасць, якую ўскладае званне чырвонаармейца.

Больш чым уласнае жыццё беражыце чэсць і дастоінства ваеннага мундзіра. Памятайце, што носіць яго армія, якая не ведала паражэння; армія, якую ва ўсім свеце называюць вызваліцельніцай; армія, якую стварыў і вёў да перамог самы мудры, самы празорлівы палкаводзец усіх часоў і ўсіх народаў — вялікі Сталін!

(Скарочаны перадрук з *„Пионерской Правды"*).



# ЗІМОЙ

*Анатоль АСТРЭЙКА*

*Мал. М. Гурло*

Разгулялася мяцеліца,
Белы снег навокал сцелецца.

Вецер снегам занясе
І дарожкі і шасе.

Закуецца рэчка льдзінамі,
На каньках на рэчку рынем мы.

З горкі возьмем мы розгон,
Ветру рушым наўздагон.

Дагані паспрабуй хлопчыка,
Пэўна будучага лётчыка!

Пад канькамі льдзінкі звоняць,
Нас і вецер не дагоніць.

І ляцяць бесперастанку
І на лыжах і на санках

З гор, дарожак да ракі
Шумным гуртам хлапчукі.

Ззяюць твары, ззяюць вочы,
Хто катацца з нас не хоча?

Снег пад санкамі парыпвае,
За насы мароз пашчыпвае.

З горкі снежнай між бяроз
Школьны коціцца абоз.




# У ТАЙЗЕ

(Урывак з апавядання «Чук і Гек»)

А. ГАЙДАР

Мал. В. Ціханозіча

У наступны дзень было вырашана рыхтаваць к Новаму году ёлку.

З чаго-чаго толькі не выдумвалі яны майстраваць цацкі!

Яны сабралі ўсе каляровыя малюнкі з старых часопісаў. З рыззя і ваты нашылі звяркоў, лялек. Выцягнулі з скрыні ўсю бацькаву паперу і нарабілі з яе кветак.

Ужо які пахмуры і нелюдзімы быў вартаўнік, а і той, калі прыносіў дровы, падоўгу стаяў ля дзвярэй і дзіваваўся з іх усё новых і новых выдумак. Нарэшце, ён не сцярпеў. Ён прынёс ім сярэбраную паперу з-пад чаю і вялікі кавалак воску, які ў яго застаўся ад шавецкага рамяства.

Гэта было выдатна! І цацачная фабрыка адразу ператварылася ў свечачны завод. Свечкі былі непрыгожыя, няроўныя. Але гарэлі яны гэтак-жа ярка, як і самыя прыгожыя пакупныя.

Цяпер справа была за ёлкай. Маці папрасіла ў вартаўніка сякеру, але ён нічога на гэта ёй нават не адказаў, а стаў на лыжы і пайшоў у лес.

Праз поўгадзіны ён вярнуўся.

Няхай сабе цацкі былі і не вельмі прыгожыя, няхай зайцы, пашытыя зануч, былі падобны на кошак, няхай усе лялькі былі аднаго твару — праманосыя і лупатыя — і няхай, нарэшце, яловыя шышкі, абгорнутыя сярэбранай паперай, не так зіхацелі, як далікатныя і тонкія шкляныя цацкі, але затое такой ёлкі і ў Маскве, вядома, ні ў каго не было. Гэта была сапраўдная таежная прыгажуня — высокая, густая, прамая і з галінамі, якія разыходзіліся на канцах, як зорачкі.

Чатыры дні за справаю праляцелі непрыкметна. І вось надыходзіў Новы год.

Ужо з раніцы Чука і Гека нельга было загнаць дадому. З пасінелымі насамі яны тырчэлі на марозе, чакаючы, што вось-вось з лесу выйдзе бацька і ўсе яго людзі. Але вартаўнік, які паліў у лазні, сказаў ім, каб яны не мерзлі дарэмна, бо ўся партыя вернецца толькі к абеду.

І сапраўды, толькі яны селі за стол, як вартаўнік пастукаў у акенца. Спехам апрануўшыся, усе вышлі на ганак.

— Цяпер сачыце, — сказаў ім вартаўнік: — вось яны зараз пакажуцца на схіле той гары, што правей вялікай верхаві-



Яны нашылі звяркоў і лялек.

ны, потым зноў прападуць у тайзе і тады праз поўгадзіны ўсе будуць дома.

Так яно і выішла. Спачатку з-за перавала выскачыла сабачая запражка з гружанымі санямі, а за ёй услед шпарка пранесліся лыжнікі.

У параўнанні з горамі яны здаваліся да смешнага маленькімі, хоць адсюль былі вельмі ясна відаць іхнія рукі, ногі і галовы.

Яны прамільгнулі на голым схіле і зніклі ў лесе.

Роўна праз поўгадзіны пачуўся брэх сабак, шум, скрып, крыкі.

Пачуўшы дом, галодныя сабакі шпарка выскачылі з лесу. А за імі, не адстаючы, вынырнулі на паляну дзевяць лыжнікаў.

І ўбачыўшы на ганку маці, Чука і Гека, яны на бягу паднялі лыжныя кіі і голасна закрычалі: «Ура!»

Тады Гек не сцярпеў, саскочыў з ганка і, чэрпаючы снег валёнкамі, паімчаўся насустрач высокаму, заросшаму барадой чалавеку, які бег наперадзе і крычаў «ура» гучней за ўсіх.

А вечарам была для ўсіх ёлка, і ўсё дружна сустракалі Новы год.

Калі быў накрыты стол, патушылі лямпу і запалілі свечкі. Але так як, апрача Чука з Гекам, астатнія ўсе былі дарослыя, дык яны, вядома, не ведалі, што цяпер трэба рабіць.

Добра, што ў аднаго чалавека быў баян, і ён зайграў вясёлы танец. Тады ўсе падхапіліся, і ўсім захацелася танцаваць. І ўсе танцавалі вельмі прыгожа, асабліва, калі запрашалі на танец маму.

А бацька танцаваць не ўмеў. Ён быў вельмі дужы, добры, і калі ён без усякіх танцаў проста крочыў па падлозе, дык тады ў шафе звінела ўся пасуда.

Ён пасадзіў сабе Чука з Гекам на калені, і яны моцна пляскалі ўсім у далоні.

Потым танец скончыўся, і людзі папрасілі, каб Гек спеў песню. Гек не адмаўляўся. Ён і сам ведаў, што можа спяваць песні і ганарыўся гэтым.

Баяніст падыгрываў, а ён ім праспяваў песню. Якую—я ўжо цяпер не помню. Помню, што гэта была вельмі добрая песня, бо ўсе людзі, слухаючы яе, змоўклі і заціхлі. І калі Гек спыніўся, каб перавесці дых, дык было чутно, як патрэсквалі свечкі і гудзеў за акном вецер.

А калі Гек скончыў спяваць, дык усе зашумелі, закрычалі, падхапілі Гека на рукі і пачалі яго падкідваць. Але маці ў той-жа час адабрала ад іх Гека, таму што яна спалохалася, каб знячэўку яго не стукнулі аб драўляную столь.

— Цяпер сядайце, — зірнуўшы на гадзіннік, сказаў бацька. — Цяпер пачнецца самае галоўнае.

Ён пайшоў і ўключыў радыёпрыёмнік. Усе селі і замоўклі.

Спачатку было ціха. Але вось пачуўся шум, гул, гудкі. Потым нешта стукнула, засіпела, і аднекуль здалёк данёсся меладычны звон.

Вялікія і маленькія званы званілі так:

Цір-ліль-лілі-дон!
Цір-ліль-лілі-дон!

Чук і Гек зірнулі адзін на аднаго. Яны пазналі, што гэта. Гэта ў далёкай-далёкай Маскве, пад чырвонай зоркай, на Спаскай вежы званіў залаты Крэмлёўскі гадзіннік.

І гэты звон—перад Новым годам—цяпер слухалі людзі і ў гарадах, і ў горах, і ў стэпах, і ў тайзе, і на сінім моры.

І тады ўсе людзі падняліся, павіншавалі адзін аднаго з Новым годам і пажадалі ўсім шчасця.

Што такое шчасце—гэта кожны разумеў па-свойму. Але ўсе разам людзі ведалі і разумелі, што трэба чэсна жыць, шмат працаваць і моцна любіць і берагчы гэтую вялізную шчаслівую зямлю, якая завецца Совецкай краінай.





# КРЫВЫ ШЛЯХ



(Працяг*)

*Янка МАУР*

*Мал. А. Волкава*

## ПАД НОВЫ ГОД

Сяліба бацюшкі, уся яго вялікая гаспадарка з палямі і гародамі ляжала ў куту, дзе рака злучаецца з возерам. На гэтым беразе ракі, апрача гаспадаркі нашага бацюшкі ды турмы, нічога не было.

Процілеглы кут між ракой і возерам займалі руіны старажытнага замка Радзівілаў. Велізарны роў аддзяляў замак ад мястэчка, а за гэтым ровам уздымаўся высачэзны вал. Наверсе ішла па ім нешырокая тэраса, а потым другі вал. За ім ужо хаваўся замак, сад і рэшткі іншых будынкаў.

Далёка-далёка, на другім беразе возера сярод дрэў бялеўся новы палац Радзівіла. Нават нас, цёмных хлапчукоў, вельмі абураў сцяг, які заўсёды развяваўся над палацам. Мы інстынктыўна адчувалі, што там сядзіць уладар, чужы, варожы для ўсяго народу, і адчувае сябе ні ад каго незалежным. Казалі, што абодва замкі злучаліся падземным ходам пад возерам.

Хоць бацюшкавы абшары былі надта вялікія, але для нашага дома не знайшлося месца, апрача нейкай шчыліны паміж папоўскім садам і турэмнай дашчатай агарожай. У ёй, супроць самага нашага ганку, былі маленькія варотцы, і калі часам разгонішся з ганку, то акурат трапіш у турму. Але больш ніякіх непаразуменняў з жыхарамі турмы ў нас не было.

Не ведаю, як жылі яны, але думаю, што цеснаты такой не было, як у нас. Спальня ў нас была ўсутыч застаўлена ложкамі, а ў сталовай быў вялікі стол, а вакол яго таксама ложкі. Маё раскошнае жыццё цягнулася нядоўга: давялося прыняць на сваю пасцелю кватаранта.

Пасцельныя прылады мы павінны былі мець свае, але мала хто меў іх, асабліва нашы гнілушкаўцы. У якім выглядзе былі нашы пасцелі, ніхто не цікавіўся. Нават абстрыгчы нас «добры» бацюшка не здагадваўся. Усе мы былі кудлатыя, а ў мяне і Петруся галава яшчэ была закарэўшая ад залатухі.

На снеданне нам звычайна давалі посны чорны крупнік, у якім вельмі цяжка было злавіць крупінку. Ставілі адну міску на пяць-шэсць чалавек. Мы пачыналі ў ёй плёхацца, стукацца лыжкамі, а вакол міскі хутка сбіралася лужына. Асабліва жорсткай была «барацьба за існаванне», калі давалі зацірку з пытляванай мукі. Там было толькі некалькі мучных галачак, і ўсе заўзята ганяліся за імі. Стукалі лыжкамі адна аб адну, а часам і аб чыюнебудзь галаву.

На абед часцей за ўсё была капуста і рэдка калі які дадатак—бульбіна, кавалак нібы мяса ці селядца. На возеры заўсёды было шмат рыбакоў. Узімку мы хадзілі глядзець, як ловіцца рыба з-пад ільду, бачылі горы рыбы, але нам пакаштаваць свежай рыбы, здаецца, такі не давялося.

Вячэра была такая самая, як снеданне. Цукру мы не бачылі. Нават хлеба было малавата. Мы заўсёды былі галодныя.

І вось у такія мінуты разы два ў год з'яўлялася да мяне мама. Што гэта было за шчасце!.. Дзеля аднаго гэтага варта было жыць на свеце... Яна наймала ў мястэчку куток і жыла



*Асаблівa жорсткай была барацьба, калі давалі зацірку.*

* Пачатак гл. у № 3, 4, 5—6, 7, 8—9, 10 і 11.

тут з тыдзень. І ўвесь тыдзень я жыў у яе. Зноў ласаваўся падсмажанай бульбай, скваркай, заціркай. Са школы ішоў да яе і начаваў, як раней, у адной пасцелі. А як яна ганарылася мною! Я-ж цяпер вучань, сапраўдны вучань! І пэўна на каго-небудзь вывучуся.

Яна мяне мыла, стрыгла, нечым мазала, латала бялізну. Праз некаторы час я меў адзенне, лепшае ад усіх: боты, панчохі, рукавіцы і нарэшце—кажух! А адыходзячы, пакідала мне грошы—капеек дваццаць-трыццаць.

Месяц, другі, трэці яна недзе хадзіла, працавала, жабравала—і зноў усё аддавала мне. Часам мы марылі, як буду я «вучоным», буду жыць як пан, а яна будзе ў мяне гаспадыняй, і ёй не трэба будзе бадзяцца па свеце...

Але якім «панам» я магу зрабіцца, скончыўшы пачатковую школу? Гэтага мы не ведалі...

Аднаго разу, калі мама доўга не прыходзіла, мне трэба было купіць аловак, а грошай не было.. Я стаў пытацца, каб у каго з таварышоў пазычыць тры капейкі. Але дзе там! Каго не спытаеш—усё няма ды няма. А калі ў каго ёсць, дык той і слухаць не хоча.

Але я добра ведаў, што ў Грышкі ёсць. Грышка быў гаспадарчы хлопец. Нават выгляд у яго быў нейкі стары, зморшчаны. Ён трымаў сябе, як сталы, рэдка смяяўся, не дурэў, і ўсё порхаўся са сваёй маёмасцю. У яго была скрынка з замком, і там былі крукі, цвікі, скуркі, анучкі і грошы.

Я прычапіўся да яго:

— Ды пазыч ты тры капейкі. Хутка прыдзе маці, і я табе зараз-жа аддам.

— Няма ў мяне грошай,—панура кажа ён.

— Маніш—ёсць. Шкада табе, ці што?

— Ну і шкада!

— Я дам табе за гэта кавалак алоўка, — ледзь не плачучы, кажу я.

— Адчапіся!

Некалькі дзён хадзіў вакол яго—нічога не выходзіць. Крыўдна так, што аж пячэ ў сярэдзіне. Свой чалавек—не хоча дапамагчы. Я-ж хутка аддам!

І вось аднаго разу я не пайшоў у школу і застаўся дома, каб... самавольна ўзяць у яго тры капейкі. Я-ж яму аддам, аддам!

Падышоў я да яго скрынкі і стаў выкручваць замок. Страх сціскае сэрца, але я ўпарта адчыняю скрынку і ўсё шапчу: «я-ж аддам, аддам...»

У скрынцы я знайшоў цэлых дваццаць восем капеек — і ўсё медзякамі. І ўзяў з іх тры капейкі.

Вярнуўся са школы Грышка і падняў шум. Няцяжка было здагадацца, што гэта зрабіў я. Паведамілі бацюшку.

Я схаваўся ў куток, плачу...

Чую—ідзе бацюшка... Цяпер я пэўна магу сказаць, што за ўсё сваё далейшае жыццё я не адчуваў такога жаху і такой пакуты, як тады.

Як разбіралася справа, я не памятаю, бо быў бадай што ў непрытомнасці.

Прысуд быў досыць мяккі: аддаць тры капейкі і адбіць у царкве сотню паклонаў.

Паклоны я адбіў добрасумленна, не шкадуючы ілба і такім чынам ачысціўся ад «граху». Але ад сораму не мог пазбавіцца яшчэ многа-многа гадоў...

Толькі ў такіх выпадках бацюшка і заходзіў да нас, а так і носу не паказваў. А мы былі і рады. Хоць бацюшка, як ён заўсёды казаў, і рабіў нам ласку, дарма прытуліў, карміў, вучыў, але мы да яго, апрача страху, нічога не адчувалі. Ён быў для нас чужы, а мы для яго — тым болей. Мы інстынктыўна адчувалі, што ён нас не любіць. Ніколі ён не пагаварыў з намі, як кажуць, па душам. І не гледзячы па яго «ласку», мы яго шчыра не любілі.

Перад калядамі бацюшка сказаў нам, што на канікулы мы ўсе павінны ехаць дахаты. Тыя, хто жыў бліжэй ці мелі дома каня, раз'ехаліся. А нам, гнілушкаўцам, ды яшчэ некалькім чалавекам, не было куды дзецца. А бацюшка ўсё насядаў, пагражаў, што не будзе карміць, нават выганіць з хаты. Яшчэ сёй-той нейкім чынам выбраўся. А нам заставалася ці пусціцца пешшу ў люты мароз за сорак кілометраў, ці рызыкаваць сваім жыццём тут. І мы рызыкнулі. Як толькі прыдзе бацюшка гнаць нас, мы пачынаем плакаць, прасіцца. Нарэшце ён махнуў на нас рукой і пакінуў. І ёсці даваў. І нават... на бал запрасіў да сябе пад новы год. Праўда, не ўсіх, а толькі мяне з Цімкам. Чаму ён выбраў нас—не ведаю. Але гэты першы бал, у якім я ўдзельнічаў, зрабіў на мяне надзвычайнае ўражанне.

Ніхто нічога не думаў—і раптам клічуць нас да бацюшкі ў дом. Мы з Цімкам пабялелі, глядзім адзін на аднаго.

— Ты што зрабіў?—пытаецца ён у мяне.

— Не ведаю... Здаецца, нічога,—кажу я.— А ты?

— І я нічога.

А таварышы глядзяць на нас, спачуваюць.

Прышлі мы на кухню, дрыжым, тулімся. Нейкая незнаёмая жанчына ў фартуху і з белай хусцінкай на галаве распараджаецца тут, як у сваёй хаце, камандуе дзвюма дзяўчынамі. Сама матушка раіцца з ёю.

Кухня вялікая, большая за нашу сталовую. У ёй некалькі сталоў, і ўсе яны завалены дабром: мясам, маслам, малаком, тварагом, смя-



*Адсюль праз дзверы відаць была сталовая.*

танай. На падлозе ляжаць некалькі зарэзаных гурэй, качак, індыкоў, тых самых індыкоў, якія так нас дзівілі ў жывым выглядзе. На адным з сталоў мясілі цеста і рабілі пірагі, якія мы цяпер маглі-б з'есці сырымі. Чуліся нейкія смешныя словы: «торт», «мус», «жэле», «філе». А які пудоўны пах быў у кухні, якое густое і смачнае паветра!

Убачыла нас матушка і сказала:

— Ну, прымайцеся за работу!

Нам адлягло ад сэрца. Значыцца, не на расправу нас паклікалі, а на баль. І адразу нас ахапіў святочны настрой. З вялікай ахвотай і цікаўнасцю ўзяліся за работу: бегалі па ваду, прыносілі і шчапалі дровы, скублі качак, індыка, круцілі нейкую машыну з лёдам, таўклі ў ступцы розныя цынамоны, выносілі памыі. На пліце і ў печцы смажылася, скварылася, булькала, сіпела, свірчэла; пудоўны пах кружыў нам галовы, і мы завіхаліся так, што цёця ў белай хустцы нават нас пахваліла.

Некалькі разоў выбягала ў кухню незямная дзяўчынка, і тады я нічога не мог рабіць, а глядзеў на яе і млеў. І вельмі было мне непрыемна, калі на яе гледзеў Цімка. Выбягаў і хлопчык—«губернатарскі сын», вясёлы, чысты. З яго я не цешыўся, а адчуваў толькі зайздрасць і непрыязнь. Але ён нас не заўважаў.

Тым часам у пакоях пачуліся галасы, тупат, смех — пачалі збірацца госці. На кухні яшчэ больш замітусіліся. Захваляваліся і мы з Цімкам. Потым пачуліся гукі раяля. У часе маіх вандраванняў мне некалькі разоў даводзілася чуць раяль праз вокны, і кожны раз гэта музыка праймала мяне наскрозь. А цяпер, калі я сам быў на балу, уражанне было яшчэ мацнейшае. Трэба зазначыць, што, невядома адкуль і як, у мяне хаваліся музычныя здольнасці і добры слых. Прычым, на мяне бадай ніякага ўражання не рабіла сялянская гармоніка, а толькі панскі раяль, якога мне і бачыць не даводзілася.

Нарэшце, настаў момант, калі ўсё падрыхтаванае намі адправілася ў сталовую. Паехалі марынаваныя грыбы, галандскія селядцы, гуркі, засмажанае парася, фаршыраваная рыба і шмат яшчэ рознага дабра.

Праз некалькі хвілін мы пачулі вынікі нашай работы. Галасы і смех яшчэ больш узмацніліся, забразгалі шклянкі, талеркі, госці пачалі гаварыць усе разам. Даляталі незразумелыя словы:

— Сяргей Іваныч, рыба плавае!

— Парася піць хоча!

— Аляксей Антонавіч, дом мае чатыры куты!

Хутка пачалі вяртацца да нас талеркі. На многіх заставаліся большыя ці меншыя кавалкі стравы. Мы з Цімкам зірнулі адзін на аднаго: можа цяпер і нам перападзе? Есці так хачацца... Дзяўчаты ўзялі па кавалку каўбасы, гаспадыня і нам сказала: «ідзіце сюды», але раптам увайшла матушка і пачала збіраць усе некранутыя кавалкі ў адну міску. А потым ужо сказала нам: «даядайце». Але спажывы было мала.

Калі матушка вышла, гаспадыня ўсміхнулася і сказала нам:

— Нічога, будзе яшчэ.

Пасля таго сталі адпраўляць у сталовую гарачыя стравы: індыка, качак і ўсякую іншую смажаніну. Зноў пачулася бразганне шклянак, талерак; гоман яшчэ больш узмацніўся. Нехта нават п'яным голасам заспяваў: «Звёзды мае, звёздачкі»...

Мне вельмі хацелася паглядзець, што там робіцца. Скарыстаўшы момант, я прабраўся з кухні ў маленькі цёмны куточак і схаваўся пад адзежай. Адсюль праз дзверы відаць была сталовая. Столькі паноў і так блізка я ніколі не бачыў. Асабліва здзівіў мяне наш бацюшка. Ён смяяўся, балбатаў, жартаваў, як звычайны чалавек. Чаму ж ён з намі не быў чалавекам? Быў там яшчэ адзін бацюшка, прыстаў з пагонамі,

яшчэ адзін начальнік без пагон, а толькі з гузікамі. Былі сталыя, важныя жанчыны, маладыя панёнкі і некалькі дзяцей. Але яны былі ў другім пакоі, дзе была ёлка, і я бачыў толькі кавалачак ёлкі. Ну і добра-ж было ім усім!.. Убачыў я і нашага настаўніка, але ён тут здаваўся зусім не такім важным, сядзеў далёка, і на яго мала звярталі ўвагі. Я нават адчуў нейкую блізкасць да яго. Але мяне больш цікавіла ёлка і дзеці, асабліва дзяўчынка...

Раптам нехта схапіў мяне за каўнер, і я пачуў голас матушкі:

— Ты чаго тут?

Але больш нічога не было, і я толькі вымушан быў вярнуцца на кухню.

Бал ішоў сваім парадкам. Хутка пачалі вяртацца да нас талеркі з мясам. І хоць матушка зноў адабрала лепшыя кавалкі, але і нам хапіла досыць.

Потым мы адправілі ў сталовую розныя салодкія рэчы. Ад іх вярнуліся да нас толькі салодкія талеркі ды невялічкія дробкі. Мы вычысцілі талеркі, і на лёс свой не скардзіліся.

А бал ужо грымеў на поўны ход. Вясёлыя крыкі, музыка, танцы, спевы, дзіцячыя галасы...

Цімка слухаў, слухаў, а потым і кажа са злосцю:

— Чаму ўсё ім?.. А хіба мы не людзі?

Я паглядзеў на яго са здзіўленнем. Вось чаго захацеў? Але крыўда, балючая крыўда сціснула і маё сэрца. Я адчуў, што вочы мае робяцца вільготнымі...

Злосці я яшчэ не адчуваў, а толькі зайздрасць і крыўду.

А калі мы вярталіся дахаты, то забыліся і на крыўду. Мы гаварыліся тым, што пабывалі на балу. Нашы таварышы такога шчасця не мелі. Яны галодныя сустракалі ў пасцелі новы год.

Заснуў я не адразу—усё перажываў уражанні ад бала. Потым прыснілася мне чароўная дзяўчынка, чысценькая, прыгожанькая, як лялька. Яна не цуралася мяне, ветліва ўсміхалася і нават хацела нешта сказаць. Але раптам бачу—гэта не дзяўчынка, а Рыпішка, зусім не падобная на ляльку. Яна ўхапіла мяне за плячо і ўшчыпнула.

Я прачнуўся. Плячо сапраўды нехта шчыпаў...

**(Працяг будзе)**




*Максім ЛУЖАНІН*

*Толькі вечарам учора*
*Падмярзаць стаў панадворак,*
*Хмары некуды сплылі,*
*Зоры ў небе зацвілі.*
*А пасля ўсхадзіўся вецер,*
*Выў у коміне ўвесь вечар.*
*Так я з гэтым і заснуў,*
*А на ранне як зірнуў—*
*Вось, здаецца-б, і пабег:*
*Белы,*
*Белы,*
*Белы снег!*

*Ветру нудна не было,*
*Накруціла, намяло:*
*А далёка,*
*А глыбока,*
*А высока,*
*Аж да вокан!*
*І на полі,*
*І на голлі,*
*Дзе ні глянеш,*
*Дзе ні станеш—*
*Ай-я-ай!*
*Які сняжок!*
*Што ні ступіш, дык слядок.*

# Радзіма замяніла ім бацькоў

*Нядаўна на выстаўцы дзіцячай творчасці ў Мінску ўсіх зацікавілі вельмі прыгожыя каўры і мастацкі вышытыя на сукне чырвоныя макі. Гэтыя мастацкія рэчы зроблены сёстрамі Томай і Эляй Жукоўскімі.*

*Вельмі цяжкі шлях прайшлі сёстры Жукоўскія — Тома, Эля Зора і Дола. Бацька іх загінуў на фронце, маці загінула ад ўзрыву нямецкай бомбы. Старэйшай Эле было толькі 12 год, малодшай Зоры—5.*

*Сясцёр узяў на выхаванне 7 дзіцячы дом г. Мінска. Выхаваўцы ласкава прынялі дзяцей. Сёстры пайшлі вучыцца ў школу. Яны выдатна вучацца, а ў вольны час займаюцца ў розных гуртках.*

*Эля і Тома сталі выдатнымі вышывальніцамі, Зора і Дола—хочуць стаць балерынамі і займаюцца ў балетных гуртках.*

*НА ЗДЫМКАХ:*

*1. Сёстры Жукоўскія: Дола, Зора, Тома, Эля*
*2. Яны вяртаюцца са школы.*
*3. Тома і Эля за вышыўкай.*
*4. Зора і Дола на ўроку танцаў.*

Фота В. Лупейкі.









## Н. А. НЯКРАСАЎ

*Нікалай Аляксеевіч Някрасаў—вялікі рускі паэт. Нарадзіўся ён у 1821 годзе, памёр у 1878 г.*

*Сёлета, 4 снежня, спаўняецца 125 год з дня нараджэння паэта.*

*А. Някрасаў любіў просты працоўны народ, любіў сваю радзіму. Ён напісаў шмат твораў, у якіх рэзка выступаў супроць прыгнятальнікаў народа—памешчыкаў, капіталістаў і царскіх чыноўнікаў. «Дзе народ, там і стогн»,—з глыбокім жалем пісаў ён аб прыгнечаным працоўным народзе.*

*Някрасаў быў адным з любімых паэтаў В. І. Леніна. Любіць і шануе імя вялікага паэта і ўвесь савецкі народ.*

*У гэтым нумары мы друкуем вядомы верш Н. А. Някрасава «Генерал Таптыгін», напісаны ім для дзяцей.*



*Н. А. Някрасаў*

# ГЕНЕРАЛ ТАПТЫГІН

*Н. А. НЯКРАСАЎ*

Неяк вечарам, зімой,
У мароз заўзяты
Па дарозе слупавой
Ехаў позна на пастой
Вазачок дахаты.
Не спяшаецца ён гнаць;
Коні то не слабы,
Ды дарога тут не гладзь—
Ямы ды ухабы.
Наганяе вазачок
Важака з мядзведзем.
«Пасадзі нас, галубок,
Весялей паедзем!»
— Што ты? з мішкам?—«А чаго?
Ён у нас ціхоня.
Лішні шкалік за яго
Будзеш мець сягоння».
— Ну, сядайце.—Пасадзіў
Барадач мядзведзя,
Сеў і сам—і патрусіў
Памаленьку Федзя...
Бачыць наш Трыфон шынок,
Запрашае Федзю.
«Пачакай ты нас чуток!»
Кажа ён мядзведзю.
І пазлазілі з саней,
А мядзведзь астаўся.
Схарцаваўся ён зручней,
Адпачыць уклаўся...
Штосьці доўга не відаць
Федзі і Трыфона!
Ды, прывычныя, стаяць
Коњікі спакойна.
Пацямнела у палях,
Холад крэпне нанач:
Заварочаўся ў санях
Міхайла Іваныч.
Коні скокнулі—бяда!
Нібы ашалелі,
І стралой наўскапыта
Трактам паляцелі.
Як пачуў знаёмы звон,
Выскачыў наш Федзя,
Ды дарэмна ўсё, і ён
Толькі іх і згледзеў.
Тройка мчала наўгалоп,
Ды яно—не дзіва:
На ухабах мішка хроп

І рычэў пужліва;
Уцякаюць стар і мал:
«Ачышчай дарогу!
Сам Таптыгін генерал
Едзе у бярлогу!»
Скаланецца мужычок,
Страшна стане бабе,
Як калматы седачок
Зараве на ўхабе.
Ну, а коням проста жах—
Не перадыхнулі!
Вёрст пятнаццаць на ўвесь мах
Бедныя катнулі!
Проста к станцыі ляціць
Тройка удалая.
На санях яздок сядзіць,
Галавой матае
Ды ўсё звоніць ланцугом.
Вось і стала тройка;
Сам наглядчык да яго
Выбягае бойка.
Бачыць, боты аж блішчаць
Ды з мядзведзя шуба,
Не заўважыў, як відаць,
Што з жалезам губа,
Не падумаў: дзе фурман?
(Хоць яго й не бачыць).



Думаў важны, мусіць, пан,
«Генерал» няйначай.
Паспяшыўся шапку зняць,
Пана ён вітае.
«Што, паночку, вам падаць:
Гарэлкі ці чаю?..»
Хоча пану дагадзіць
Жвавы той дзядуля,
А мядзведзь як зарычыць!
Дык ад страху куляй
Ён адскочыў, ледзьве жыў:
«Госпадзі памілуй!
Сорак год я праслужыў
Верай, праўдай, сілай;
Многа бачыў за свой век
Генералаў розных,
І здаровых і калек,
І ліхіх, і грозных,
А такіх вось чыпадрал
Не страчаў чамусьці,
Небывалы генерал,
Пэўна, ў новым гусце!..»
Тут прыбеглі вазакі,
Дзівяцца нямала;
«Не, не бачылі такіх,—
Кажуць,—генералаў!»
На людзей нагнала страх,
Вёска ўся ў трывозе:
«Генерал раве ў санях,
Як мішка ў бярлозе!»
Трус уцёк, а хто смялей,
Дык выпадку рады:
Лезуць блізка да саней,
А наглядчык ззаду.
Струсіў ён, здалёк крычыць:
«Мо' зайшлі-б паесці?»
Мішка зноў як зарычыць...
Дык стары, нарэшце,
Не стрываў і ходу даў,
Ды з усёю світай...
Дзве гадзіны так ляжаў
Генерал сярдзіты.
Вось прыбеглі да саней
Вазак і важаты;
Супакоіў тут людзей
Трыфон барадаты,
І Таптыгіна прагнаў
З воза ён дубінай...
А наглядчык абазваў
Вазака скацінай...

Пераклад А. Якімовіча



# Расквітнее наша сталіца

Калі совецкія войскі вызвалілі Мінск, байцы-мінчане не пазналі свайго роднага горада. Нямецкія фашысты зруйнавалі цэлыя кварталы, спалілі фабрыкі і заводы, школы, дзіцячыя сады і яслі.

Совецкія людзі пакляліся адпомсціць за гэта ворагу. Яны пакляліся таксама зрабіць Мінск яшчэ прыгажэйшым чым быў ён да вайны.

Хутка пасля вызвалення ў горад прышлі будаўнікі. Яны пачалі ачышчаць вуліцы і плошчы, пачалі будаваць новыя дамы. За кароткі час у Мінску было адноўлена некалькі заводаў, электрастанцыя, шмат школ.




*Праект помніка «Перамога».*

Комуністычная партыя, таварыш Сталін няспынна клапоцяцца аб працоўных. У гэтым годзе совецкі ўрад зацвердзіў новы пяцігадовы план. Згодна гэтага плана ў нашай рэспубліцы да 1950 года будуць адноўлены ўсе гарады і калгасы. Шмат будзе пабудавана новых фабрык і заводаў.

У 1950 годзе Мінск стане буйным транспартным вузлом чыгунак, паветраных і ўтамабільных шляхоў, што звяжуць яго з гарадамі Совецкага Саюза і Заходняй Еўропы.

У Мінску будуць працаваць трактарны, аўтамабільны, веласіпедны, інструментальны заводы, тонка-суконны камбінат і вялікая баваўняна-прадзільная фабрыка. У параўнанні з даваенным Мінск значна павялічыцца. Будзе пабудавана шмат новых вуліц і прамысловых раёнаў. У цэнтры горада будуць пабудаваны



*Частка праекта цэнтра гор. Мінска.*

пяціпавярховыя дамы. Паступова да акраін горада яны будуць зніжацца. Усе вуліцы стануць роўнымі і шырокімі. Так, цэнтральная, Савецкая вуліца будзе мець 48 метраў у шырыню, вуліца Ленінская — 50 метраў.

Тры новыя кальцавыя трамвайныя лініі звяжуць між сабой усе куткі горада, а па Савецкай вуліцы пойдуць тралейбусы. Горад упрыгожыцца новымі скверамі, паркамі, кветнікамі. Зялёныя насаджэнні па берагах ракі Свіслач утвораць у раёне штучнага возера вялікі парк культуры і адпачынку. Ля возера будзе цэнтральны рэспубліканскі стадыён на 32 тысячы гледачоў. У тым-жа раёне будуць пабудаваны два буйнейшых будынкі—Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР.



# Хведар Смалячкоў

«Бацькі мае—беларускія калгаснікі, — пісаў Смалячкоў.—Яны жылі і працавалі ў калгасе імя Чкалава, Магілеўскай вобласці. Працавала наша сям'я дружна і чэсна, і таму мой бацька, матка, тры браты і сястра жылі ў калгасе заможна, ні ў чым не адчувалі нястачы. Выпрацоўвалі яны больш тысячы працадзён. Мы заўсёды і ва ўсім адчувалі клопаты совецкай улады. І для кожнага з нас совецкая ўлада — гэта родная ўлада, якая даражэй усяго на свеце».

...З калгаса Смалячкоў паехаў у Ленінград. Яго паслалі туды вучыцца ў фабрычна-заводскае вучылішча. Ленінград! Колькі хвалявання і радасці было ў хлапца, калі ён трапіў у гэты горад. Кожная вуліца, кожны дом напаміналі яму аб вялікіх днях Кастрычніка. Адсюль, з гэтага горада, вялікія Ленін і Сталін кіравалі социялістычнай рэволюцыяй. Адсюль, з Смольнага, кіравалі яны Чырвонай Арміяй у час грамадзянскай вайны. У Ленінградзе працаваў верны саратнік таварыша Сталіна—Сяргей Міронавіч Кіраў.



*Хведар Смалячкоў*

Хведар Смалячкоў пачаў жыць у Ленінградзе. Ён старанна вучыўся ў фабрычна-заводскім вучылішчы, працаваў на новабудоўлях. Ён марыў стаць добрым кваліфікаваным рабочым. Але марам не давялося здзейсніцца: нямецкія захопнікі напалі на нашу краіну.

У першы-ж дзень вайны Хведар Смалячкоў прышоў у Выбаргскі раённы камітэт комсамола.

— Я снайпер,—заявіў ён,—хачу ісці на фронт.

— Але-ж ты вучышся ў фабрычна-заводскім вучылішчы,—сказалі яму.

— Давядзецца вучобу пакінуць,—адказаў Смалячкоў.—Я скончыў снайперскую школу, добра ведаю вайсковую справу.

Пасля настойлівых просьбаў, Смалячкова накіравалі на фронт. Колькі было радасці ў яго! Хутка, вельмі хутка з вінтоўкаю ў руках ён будзе біць немцаў.

Але ў часці зусім нечакана яго назначылі кухарам. Смалячкоў рыхтаваў для байцоў абеды і кожны дзень прасіўся на перадавую. Нарэшце, яго залічылі ў разведку.

Пачалося баявое жыццё. Храбрым разведчыкам быў Смалячкоў. Аднойчы ён дабраўся да дротавай загароды немцаў. Падрыхтаваў гранаты, пачаў наглядаць. Блізка ў акопе ўбачыў некалькі гітлераўцаў і ствол варожага кулямёта. Смалячкоў размахнуўся і кінуў у акоп гранаты. Грымнулі выбухі, немцаў разнесла на кавалкі, а Смалячкоў па хмызняках і канавах непрыкметна для ворага адышоў да сваіх.

Хутка пасля гэтага камандзір уручыў яму снайперскую вінтоўку. З гэтай вінтоўкай у руках Смалячкоў кожны дзень, замаскіраваўшыся, ляжаў на пярэднім краі нашай абароны, сачыў і забіваў фашыстаў.

Першага лістапада 1941 года снайпер Смалячкоў падаў заяву ў комсамол.

«Прашу прыняць мяне ў комсамол,— пісаў ён. — З комсамольскім білетам на грудзях буду яшчэ актыўней знішчаць фашыстаў».

Комсамольская арганізацыя з радасцю прыняла Хведара Смалячкова ў свае рады. А ён стрымаў сваё слова, пачаў біць немцаў яшчэ трапней. Да 24-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі Смалячкоў знішчыў 23 фашысты. А да новага 1942 года гэты лік ён павялічыў да 111.

Немцы ўвесь час імкнуліся захапіць у палон або забіць Смалячкова. Аднойчы на яго ў атаку пайшло 45 немцаў. Бой быў цяжкі і ўпарты, але Смалячкоў вышаў з яго пераможцам.

Смалячкоў стаў народным героем. З яго бралі прыклад, у яго вучыліся снайперскай справе, настойлівасці і ўпартасці.

— Будзем біць фашыстаў па-смалячкоўску,—гаварылі байцы на Ленінградскім фронце.

Усяго Смалячкоў знішчыў 125 фашыстаў. Савецкі урад прысвоіў яму высокае званне Героя Савецкага Саюза.

Комсамольцы, моладзь, піонеры і школьнікі Беларусі вучацца ў Смалячкова як трэба любіць сваю Савецкую Радзіму і ненавідзець яе ворагаў. Імя Смалячкова стала бяссмертным. Аб ім складаюць песні, паэмы, казкі, быліны. Вось адна з былін аб Смалячкове, складзеная сказіцелямі рускага народа. Гэтая быліна ўпершыню з'явілася ў чырвонаармейскім друку Ленінградскага фронта.

Затуманилось солнце красное,
В снежной изморози взошло.
Горе тяжкое: в чистом полюшке
Молодой богатырь погиб.
Феодосий, по отцу Артемович,
Смолячков—молодой стрелок,
Среди самых бесстрашных числился
И, геройскую принял смерть.

Феодосий бил всегда без промаха,
Но не белок и не куниц,—
Бил поганые вражьи головы,
Сто их с четвертью уложил.

Что, же ты, ветер, дозор не выставил?
Что же ты, месяц, не посветил?
Что же ты, мать-земля, не раздвинулась,
Чтобы храброго уберечь?

Говорил месяц красну-солнышку:
— Смолячкова я знал, берег,
Отводил пули вражьи в стороны
И следы заметал снежком...

Говорил солнцу ветер сумрачно:
— Я светил ему в небе звездами,
Падал на-земь косым лучом....
Но не ночью, а в утро хмурое
Молодой богатырь погиб.

И сказала земля-мать солнышку:
— Понапрасну винишь ты нас:
Я сугробы заслоном ставила,
Я вставала кустом в пути,
Но не вышло ты в утро хмурое
Не блеснуло на вражью сталь,—
Не увидел он зверя лютого,
Не заметил проклятых глаз...

Еще горше тут стало солнышку.
Пуще прежнего пал туман.

Вдруг с земли прозвучали выстрелы,
И послышалась чья-то речь.
Пораздвинуло солнце изморозь,
Поглядело, а там, внизу,
Смолячкова лежат товарищи.
Не один их, не сто, а тысяча,
А быть может, и две и три—
Молодых боевых товарищей.
Все с винтовками возле себя.

— Мы, как ты, будем меткой пулею
Без пощады разить врага,
Истреблять их по сто—не менее,
Целить прямо в проклятый глаз.
Мы клянёмся, как ты, быть стойкими,
Защищая отчизну свою.
Сдержим слово свое комсомольское
Истребленьем фашистской нечисти,
Обессмертим имя твое.

И на солнце сверкнув оружием,
Сжав винтовки покрепче в руке,
Поклялись мстить за друга тысячи
Тех героев-богатырей.

М. Шкляр.





# З гісторыі календара



## ПЕРШЫ КАЛЯНДАР

Лічыць час гадамі людзі пачалі даўно. Год складаецца з сутак. А што азначаюць гэтыя меры часу—суткі і год? Давайце ўспомнім геаграфію.

Зямля, як вядома, не стаіць на месцы: яна рухаецца, як глобус вакол сваёй асі. На той частцы Зямлі, якая павернута да сонца, бывае дзень, на другой — ноч. Дзень і ноч складаюць суткі. Значыць—суткі—гэта час, за які Зямля зробіць поўны абарот вакол сваёй асі.

Але Зямля рухаецца не толькі вакол сваёй асі. Яна рухаецца таксама і вакол Сонца. Толькі, канешне, не за суткі абыйдзе яна Сонца. За гэты час міне вясна, лета, восень і зіма, або, як кажуць, круглы год. Значыць год—гэта час, за які Зямля абыйдзе вакол Сонца.

Якая-ж дакладная даўжыня года? Колькі ў ім сутак? Гэтымі пытаннямі цікавіліся яшчэ старажытныя людзі. Так, напрыклад, егіпцяне за 5—6 тысяч год да нашага часу налічылі ў годзе 365 сутак. Згадзіліся з гэтай лічбай і пачалі мераць час гадамі. Мінула 365 сутак, значыць, пачаўся новы год.

Так з'явіўся ў людзей першы каляндар.

## ПАМЫЛКА ЕГІПЦЯН

Лічылі, лічылі егіпцяне год за годам і далічыліся да дзіўных рэчаў.

Па каляндарных разліках павінен быць, скажам, пачатак вясны, а на дварэ пачынаецца... восень.

Вось дык каляндар!

Што-ж здарылася? А вось што. Егіпцяне няправільна вылічылі даўжыню года. Яны зрабілі памылку. Сапраўды год мае 365 дзён і 6 гадзін (прыблізна).

Вось і выходзіла, што па календару стары год скончыўся і пачынаўся новы, а на самай справе стары год яшчэ жыў 6 гадзін. Праз 4 гады гэтая памылка складала суткі, а праз 730 год — цэлых поўгода. Вось чаму па календару вясна перайшла на восень, а лета на зіму.



## ПАМЫЛКА РЫМЛЯН

У пачатку нашага летазлічэння рымляне парашылі выправіць памылку егіпцян. Рымскія астраномы вылічылі, што год мае 365 сутак і 6 гадзін.

Але-ж 6 гадзін гэта не суткі. Для календара такая лічба нязручная. Выходзіць, што новы год павінен пачынацца не ў пэўны час, а як калі прыпадзе. Тады згадзіліся зрабіць так: лічыць тры гады падрад за 365 дзён, а чацверты за 366

дзён. Лішнія суткі, якія набягуць за чатыры гады з гэтых 6 гадзін, парашылі прыбаўляць у лютым месяцы, лічачы ў ім не 28, а 29 дзён. Чацверты падоўжаны год умовіліся называць вісакосным, а першыя тры звычайнымі.

Новы каляндар назвалі юліянскім, па імені рымскага правіцеля Юлія Цэзара, які яго ўзаконіў (у 325 годзе).

Здаецца, усё было зроблена як належыць. Але праз пэўны час людзі зноў пачалі заўважаць нелады з календаром. Звычайна вясна ў рымлян пачыналася 24 сакавіка. Праз чатырыста-ж год выявілася, што вясна чамусьці пачынаецца... 21 сакавіка.

У чым-жа справа? Няўжо вясна пачала памыляцца? Сталі шукаць прычыну. Астраномы дакладна праверылі даўжыню года. Выявілася, што памыліўся Юлій Цэзар і яго астраномы. Яны падоўжылі год. Праўда, зусім не на шмат — усяго на 11 хвілін і 14 секунд. Сапраўды год мае не 365 сутак і 6 гадзін, а 365 сутак, 5 гадзін, 48 хвілін і 46 секунд.

За 128 год гэтая памылка рымлян складала цэлыя суткі. Канешне, гэта не такая вялікая памылка, якую зрабілі егіпцяне. Доўгі час у календарах нават не выпраўлялі новай памылкі.

## НОВЫ КАЛЯНДАР

Толькі ў 1582 годзе рымляне выправілі сваю памылку. К гэтаму часу розніца паміж сапраўднымі і каляндарнымі гадамі складала ўжо 10 сутак. Зрабілі так. Наступны пасля 4 кастрычніка 1582 года дзень парашылі лічыць не 5-ым, а 15 чыслом кастрычніка.

Каляндар стаў на сваё месца. Але як быць далей? Праз 400 год прыбаўленыя астраномамі Юлія Цэзара лішнія 11 хвілін і 14 секунд зноў дадуць 3-е сутак. Праз 800 год — 6 сутак і г. д.

Вырашылі і гэтае пытанне. Умовіліся на працягу 400 год выкідаць з календара лішнія 3-е сутак, за кошт вісакосных гадоў, гэта значыць тры вісакосныя гады пераводзіць у простыя.

Новы каляндар назвалі грыгарыянскім, па імені рымскага папы Грыгорыя, які зацвердзіў яго.

Цікава адзначыць, што ў царскай Расіі карысталіся старым юліянскім календаром аж да самай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Цары і іх чыноўнікі, як агню, баяліся ўсяго новага. Толькі пры савецкай уладзе быў уведзены новы каляндар. Але к гэтаму часу стары каляндар адрозніваўся ад новага ўжо на 13 сутак. Ва ўсім свеце, напрыклад, сустракалі новы год, а ў Расіі была яшчэ толькі палавіна снежня.

Каб выправіць гэтую розніцу, пачалі 1 лютага 1918 года лічыць 14 лютым, і так адразу перайшлі да новага правільнага стылю лічэння часу, гэта значыць, да новага календара.

Праўда, вучоныя даводзяць, што і новы каляндар мае памылку. Толькі-ж гэта памылка зусім дробная: за 3000 год набяжыць адзін лішні дзень. Значыць, уносіць змены ў новы каляндар людзі будуць не скора.





# У юных тэхнікаў Брэста

На Мінскай вуліцы горада Брэста, ля невялікага дома, стаіць група рэбят. Яны сочаць за рухам накрыж збітых крылляў, што прымацаваны да страхі. Дзьме слабы вецер з усходу, але шпарка, з лёгкім шумам кружацца крыллі. На тварах рэбят— нястрымнае захапленне.

— Жэня, уключай!—крычыць невысокі хлопчык, які стаіць ля акна тэхнічнай станцыі.

І ў той-жа час ва ўсіх вокнах дома загараецца яркае электрычнае святло.

— Гарыць! — радасна крычаць рэбяты.

Сёння юныя тэхнікі атрымалі новую перамогу. Яны скончылі будаўніцтва ветрарухавіка, які прыводзіць у дзеянне электрадынаму. Цяпер дзіцячая тэхнічная станцыя будзе мець сваю электрычную энергію. Яе хопіць не толькі для асвятлення, але і для перазарадкі акумулятараў.

Думка аб пабудове ветрарухавіка ўзнікла ў Жэні Катовіча. Аднойчы ён расказаў аб гэтым на занятках гуртка юных тэхнікаў. Інструктар Валенцін Іванавіч падтрымаў прапанову Жэні, і рэбяты прыступілі да працы. Зусім няцяжка было зрабіць ветрарухаючую частку. Яна рабілася па тыпу ветраных млыноў. Але цяжка было зрабіць электрадынаму. Тут ужо без фізікі — ні на крок; трэба асабліва добра ведаць раздзел аб электрычнасці.

За гэтую адказную справу ўзяліся Юрка Ушакоў і Віктар Арлоў. Яны доўга займаліся схемамі, пакуль не вывучылі мантажную справу. Нарэшце, яны дасягнулі поспеху.

Шмат цікавых машын можна ўбачыць у Брэсцкай тэхнічнай станцыі, і ўсе яны зроблены рукамі юных тэхнікаў-школьнікаў. Глядзіш, — і ганарышся такімі ўмелымі вынаходлівымі рэбятамі.

Вось у зале — невялікі вакзал і ля яго стаіць электравоз. Да яго прычэплены спальныя вагоны, платформы. Па ўсіх правілах электратэхнікі працягнуты паўз сцяну правады, а пад імі — чыгунка. Уключаеш электрычнасць, і электрацягнік бяжыць па кругу. Ён праходзіць мост, знікае ў тунелі, а адтуль выходзіць зноў да станцыі.

Над электрацягнікам працаваў увесь гурток. Электравоз змайстраваў Віця Каралёў, спальныя вагоны — Жэня Катовіч, тунель — Віця Сінякоўскі, мост — Віця Арлоў. Кожны выконваў сваё даручэнне дакладна і добра. Часта рэбяты спаборнічалі між сабой, адзін аднаму дапамагалі. А ў дружбе ладзілася і справа.

Дзіцячую тэхнічную станцыю наведваюць не толькі юныя тэхнікі. Часта прыходзяць сюды рэбяты з музычнай школы, юныя мастакі, гімнасты—вучні школ горада. Яны цікавяцца поспехамі сваіх таварышоў і з вялікай цікаўнасцю агледаюць зробленыя імі машыны і рэчы.

Шмат якія мадэлі юных тэхнікаў разданы ў фізічныя кабінеты школ Брэста. Яны выкарыстоўваюцца, як назіральныя дапаможнікі на ўроках. Шмат самаробных цацак падаравалі юныя тэхнікі падшэфнаму дзіцячаму саду.

Цяпер рэбяты заняты вельмі цікавай працай. Яны робяць кіноапарат, які хочуць падараваць Брэсцкаму дому піянераў.

**Г. Рэлес**

Брэст.

# Перахітрыў

*(Выпадак на школьным турніры)*

Школьны шахматны турнір падыходзіў к канцу. Перад апошнім турам, пасля дагрывання адкладзеных партый, выявілэся, што Ігар Пешкаў і Дзіма Каралёў атрымалі роўную колькасць ачкоў: 9 з 12 магчымых.

Хто-ж будзе чэмпіёнам школы? Гэтае пытанне вельмі непакоіла ўдзельнікаў турніра.

І вось сёння іграецца апошні тур. Паглядзець ігру прышлі многія аднакласнікі Ігара і Дзімы. Ігар адчуваў сябе выдатна, як кажуць, быў у добрай спартыўнай форме. У апошніх чатырох турах ён выйграў усе чатыры партыі. І хоць у апошнім туры яму давялося іграць чорнымі, ён заявіў у сваім класе:

— Не хвалюйцеся: чорны Пешкаў пераможа белага Каралёва.

Гэты жарт прышоўся да спадобы сямікласнікам. Яны ўжо зараней качалі на руках «будучага чэмпіёна». І сапраўды, Ігар, іграючы чорнымі, абараняўся вельмі ўдала. Па дэбюту (пачатак ігры) партыя атрымалася роўная.

Каралёў іграў удумліва і рэдка адыходзіў ад дошкі. Ігар-жа, як масціты шахматыст, зробіць ход і пойдзе да сваіх «балельшчыкаў».

— Ну, як — выйграеш? — пыталіся ў яго.

— Спадзяюся,—ганарліва адказваў ён.

Тым часам на ўсіх другіх дошках барацьба канчалася. У табліцы з'явіліся нулі і адзінкі. Цяпер увагу гледачоў прыкавала партыя Дзімы і Ігара. І тут атрымалася нешта незвычайнае. Ігар Пешкаў выйграў ладдзю і рыхтаваўся правесці ў ферзі пешку, чаго белыя ніякім чынам не маглі прадухіліць. (Гл. мал.). Усе ўжо лічылі Ігара чэмпіёнам, і стараста турніра пачаў складваць фігуры.

— Чорнага ферзя пакіньце, калі ён яшчэ не здаецца, — сказаў Ігар.



На ганарлівыя жарты Ігара Дзіма Каралёў не звяртаў увагі. Ён працягнуў руку да пешкі а2 і прасунуў яе ўперад на адно поле.

— Чым рабіць такія хады, — сказаў ён,—лепш здавацца. Нашто дарэмна час марнаваць. Ігра, лічу, закончана,—і паставіў ферзя на с1.

— Ігра сапраўды закончана, — падумаўшы, сказаў Каралёў. — Аб'яўляю мат у 9 ходаў.

Гледачы захваляваліся, зашумелі. А на дошцы разгарнулася незвычайная прыгода. Адзіная цяжкая фігура белых— ладдзя — пачала скакаць па шахматных клетках, як легкавы аўтамабіль, увесь час не даючы супакою чорнаму каралю. І вось ладдзя нанесла рашаючы ўдар, — на дзевятым ходзе Дзіма аб'явіў «мат». Гэтае слова ён прамовіў так упэўнена, як быццам хацеў падкрэсліць: «Не пераскочыўшы — не кажы «гоп».

Ігар Пешкаў разгублена сказаў: «Перахітрыў».

Паспрабуйце знайсці гэты выйгрыш.

**С. Турчыновіч.**



# ЗАЛАТЫ ГЛАДЫШ

*(Адыгейская казка).* *Мал. А. Волкава*

Жыў на свеце хітры і люты цар. У жыцці сваім ні з кім не абышоўся ён па добраму, не было такога чалавека, якога-б ён пашкадаваў.

Усе—ад малога да вялікага—баяліся цара, а сам ён баяўся толькі аднаго — старасці.

Цэлымі днямі сядзеў цар у сваіх пакоях і разглядаў сябе ў люстра.

Заўважыць сівы волас—падфарбуе яго. Заўважыць маршчынку—разгладзіць рукой.

«Нельга мне старэць,—думаў цар, — Цяпер усе баяцца мяне, ніхто пярэчыць не адважыцца. А зраблюся старым і слабым—народ адразу і перастане мяне слухацца. Як я з ім тады спраўлюся?

І, каб ніколі не ўспамінаць аб старасці, загадаў цар забіваць усіх старых.

Толькі пасівее галава ў чалавека, тут яму і канец. Царскія служкі з сякерамі хапаюць яго, вядуць на плошчу і адсякаюць яму галаву.

З усіх канцоў краіны прыходзілі да цара жанчыны і дзеці, юнакі і дзяўчаты— усе прыносілі цару багатыя падарункі, усе пралівалі горкія слёзы, усе прасілі цара не забіваць іхніх бацькоў і мужоў.

Нарэшце надакучыла цару слухаць кожны дзень скаргі. Паклікаў ён сваіх ганцоў і загадаў ім па ўсіх гарадах і сёлах, на усіх дарогах і плошчах аб'явіць народу аб сваёй вялікай літасці.

Вось асядлалі ганцы коней і паехалі. На ўсіх дарогах і вуліцах, на ўсіх перакрыжаваннях і плошчах трубілі яны ў трубы і голасна выкрыквалі:

— Слухайце ўсе! Слухайце ўсе! Цар даруе вам сваю літасць. Хто дастане з дна возера залаты гладыш, той выратуе жыццё свайго бацькі, а гладыш атрымае як узнагароду. Такая царская літасць! А хто не зможа дастаць гладыш, той і бацьку не выратуе і сам галаву згубіць. Такая царская літасць!

Не паспелі ганцы аб'ехаць і палову краіны, як пачалі сходзіцца і з'язджацца да возера смелыя юнакі.

Бераг возера быў абрывісты, і з вышыні яго, праз чыстую празрыстую ваду, добра бачны быў прыгожы залаты гладыш з тонкім горлам, з узорамі, з выгнутай ручкай.

І вось прышло дзевяноста дзевяць юнакоў.

Дзевяноста дзевяць храбрацоў паспрабавалі сваё шчасце.

Дзевяноста дзевяць галоў адсек люты цар, бо ніхто не мог дастаць гладыш з дна возера,—быццам яго заваражыў хто.

Зверху зірнуць — гладыш усякаму бачны, а ў вадзе—ніхто знайсці яго не можа.

А ў той самы час, у той самай краіне жыў юнак па імені Аскер. Вельмі любіў Аскер свайго бацьку, і калі ўбачыў ён, што бацька робіцца старым, што на твары яго з'яўляюцца маршчыны, а валасы сівеюць, завёў Аскер бацьку далёка ў горы, у глухую цясніну, пабудаваў там хацінку і ў гэтай хаціне схаваў яго.

Кожны дзень, калі сонца садзілася за горы, юнак, хаваючыся, прабіраўся ў цясніну і прыносіў бацьку ежу.

Вось аднойчы прышоў Аскер у цясніну, сеў поплеч з бацькам і задумаўся.

— Які непакой у цябе на сэрцы, дзіця маё? — запытаўся стары. — Можа надакучыла табе кожны дзень хадзіць сюды?

— Не, бацька,—адказаў юнак,—каб бачыць цябе жывым і здаровым, я гатоў тройчы ў дзень хадзіць праз гэтыя

горы. Другая турбота ў мяне на сэрцы. Ні днём ні ноччу не выходзіць у мяне з галавы царскі гладыш. Колькі ні думаю я, ніяк не магу зразумець, чаму гэта, калі з берага пазіраеш у празрыстую ваду, гладыш відаць так ясна, што, здаецца, працягні руку—і ён твой. А варта каму-небудзь скочыць у ваду, вада адразу мутнее і гладыш быццам праз дно правальваецца.

Стары моўчкі выслухаў сына і задумаўся.

— Скажы мне, мой сын,—сказаў, нарэшце, стары,—ці не стаіць на беразе возера, у тым месцы, адкуль відаць гладыш, якое-небудзь дрэва?

— Так, бацька,—сказаў юнак,—на беразе стаіць вялікае галінастае дрэва.

— А прыпомні добра — зноў запытаўся стары,—ці не ў цені дрэва відаць гладыш?

— Так, бацька, — сказаў юнак,—ад дрэва падае на ваду шырокі цень, і якраз у гэтым цені стаіць гладыш.

— Ну, дык слухай мяне, сын мой,—сказаў стары. — Узлезь на гэтае дрэва і ты знойдзеш сярод яго галін царскі гладыш. А той гладыш, які відаць у вадзе,—гэта толькі яго адбітак.

Хутчэй стралы паімчаўся юнак к цару.

— Ручаюся галавой,—закрычаў ён,—я дастану твой гладыш, літасцівы цар.

Засмяяўся цар.

— Толькі тваёй галавы мне і не хапае для роўнага ліку. Дзевяноста дзевяць галоў я ўжо адсек,—твая будзе сотай.

— Можа так, а можа і не так,—адказаў Аскер.—Але думаю я, што на гэты раз не зраўняць табе ліку.

— Што-ж, паспрабуй свайго шчасця,—сказаў цар і загадаў служкам навайстрыць сякеру.

А юнак пайшоў да берага і, не задумваючыся, палез на дрэва, якое расло над самым абрывам.

Народ, які сабраўся на беразе, так і ўскрыкнуў ад здзіўлення.

— Мусіць ён ад страху звар'яцеў!— казалі адны.

— Можа ён з дрэва хоча скокнуць у ваду,—казалі другія.

А юнак тым часам узабраўся на самую



*— А прыпомні, ці не ў цені дрэва відаць гладыш?*

верхавіну і там сярод галін знайшоў залаты гладыш—з тонкім горлам, з узорамі, з выгнутай ручкай. Толькі вісеў гладыш на дрэве ўгору дном, каб усім здавалася, што стаіць ён ў вадзе, як і трэба, уверх горлам.

Зняў юнак гладыш з дрэва і прынёс яго цару.

Цар так і развёў рукамі.

— Ну,—кажа,—не чакаў я ад цябе такога розуму. Няўжо ты сам дадумаўся, як дастаць гладыш?

— Не,—сказаў юнак,—я сам не дадумаўся-б. Але ў мяне ёсць стары бацька, якога я схаваў ад тваіх літасцівых вачэй, ён вось і здагадаўся, дзе схаваны гладыш. А я толькі паслухаўся яго парады.

Задумаўся цар.

— Відаць, старыя разумнейшыя за маладых,—сказаў ён,—калі адзін стары разгадаў тое, чаго не маглі разгадаць дзевяноста дзевяць юнакоў.

З таго самага часу ў той краіне ніхто пальцам не асмеліцца крануць старых, усе паважаюць іхнюю сівізну і мудрасць, а калі сустракаюць старога чалавека на шляху, даюць яму дарогу і нізка кланяюцца.

# АРГАНІЗОЎВАЙЦЕ АВІЯМАДЭЛЬНЫЯ ГУРТКІ

Дарагія рэбяты! Юныя авіямадэлісты!

У 1933 годзе, дакладваючы аб выніках першай пяцігодкі, таварыш Сталін сказаў: «У нас не было авіяцыйнай прамысловасці. У нас яна ёсць цяпер».

Вы самі разумееце, рэбяты, якая вялікая праца хавалася за гэтымі словамі нашага правадыра і настаўніка. Літаральна на пустых месцах былі пабудаваны першакласныя авіяцыйныя заводы. Таварыш Сталін асабіста кіраваў работай савецкіх авіяцыйных канструктараў. І яны стварылі выдатнейшыя машыны. На іх сталінскія сокалы першымі ў свеце лятаді цераз Паўночны полюс у Амерыку, на іх яны грамілі ворагаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Я ведаю, рэбяты, многія з вас мараць стаць лётчыкамі. Гэта добрая, благародная і ў той-жа час ажыццявімая мара. Яна радуе нас, ваенных лётчыкаў, бо вы—наша змена, наш гонар, наша будучае.

Я не сумняваюся, што многія з вас не раз праславяць у паветры сваю Радзіму. Але для гэтага вам трэба загартаваць сябе, любіць і цаніць працу, вучыцца і вучыцца. Сталінскім сокалам можа стаць толькі фізічна загартаваны, усебакова развіты і культурны савецкі чалавек.

Шлях да самалёта пачынаецца ў авіямадэльных, планерных гуртках. Хацелася-б, каб у кожнай школе, кожным піонерскім атрадзе былі авіямадэлісты. Хацелася-б, каб юныя авіятары, без выключэння, былі выдатнікамі вучобы, прыкладам дысцыплінаванасці ў школе, на вуліцы, у сям'і.

Жадаю вам вялікіх поспехаў.

Маршал авіяцыі **Н. А. ВЕРШЫНІН.**

## БУДЗЕМ АВІЯТАРАМІ

Я вучыўся яшчэ толькі ў трэцім класе, калі ўпершыню давялося мне ўбачыць спаборніцтва лятаючых авіямадэляў. Быццам самалёты, яны падымаліся, прыгожа плылі ў паветры і павольна апускаліся на зямлю. Тады-ж я рашыў стаць авіямадэлістам. Хутка я сам пачаў рабіць авіямадэлі. Але спачатку яны ў мяне не атрымліваліся. Часта мадэлі мае зусім не лёталі. Тады я пачаў чытаць кнігі, паслаў запытанні ў Маскву ў Цэнтральную станцыю юных тэхнікаў. Мне дапамаглі.

Аднак я хутка адчуў, што мне нехапае яшчэ ведаў па фізіцы і матэматыцы. Я пачаў больш аддаваць увагі гэтым прадметам.

І вось аднойчы я атрымаў перамогу: мая мадэль паляцела! Я запусціў яе ў паветра ў двары школы, і многія вучні кінуліся яе даганяць. Вучань 5-га класа Коля Бердзін у той-жа дзень сказаў мне:

— Павучы мяне рабіць мадэлі.

У нас узнікла думка арганізаваць у школе авіямадэльны гурток. Аб гэтым мы аб'явілі ва ўсіх класах. У гурток запісалася 12 вучняў. Кіраўніком гуртка яны абралі мяне.

Сваю працу мы пачалі з самага простага. Зрабілі папяровую мадэль планера канструкцыі Анохіна. Пасля я растлумачыў, чаму планер і самалёт трымаюцца ў паветры. На наступных занятках мы пачалі будаваць больш складаныя нелятаючыя авіямадэлі і мадэлі з гумавым запускам.

У будучым мяркуем будаваць мадэлі з гумавым маторчыкам.

Вядома, у нашай працы сустракаюцца і цяжкасці, і няўдачы. Але гэта нас не палохае. Мы цвёрда ўпэўнены, што дабʼемся добрых поспехаў.

**Ігар ШЫТОХІН.**

*г. Мінск, 60 чыгуначная школа.*

## *ГУРТКАМ ЮНЫХ АВІЯМАДЭЛІСТАЎ*

Авіямадэльныя гурткі могуць бясплатна атрымаць лістоўкі завочнага клуба юных авіямадэлістаў. У гэтых лістоўках расказваецца, як будаваць і запускаць розныя лятаючыя мадэлі. З іх-жа вы даведаецеся, як зроблены і лятаюць планеры і самалёты.

Заяўкі на лістоўкі пасылайце па адрасу: Масква, праезд Серова, 4, пад'езд 6, Цэнтральная станцыя юных тэхнікаў.




*А. МІРОНАЎ* *Мал. В. Ціхановіча*

Позняй восеннню мора зацягнулася тоўстай ледзяной плёнкай. Яшчэ не так даўно тундра была бура-зялёнай ад травы і моху, а цяпер, калі выпаў снег, яна зрабілася белай і пушыстай. Снег ішоў дзень за днём з нізкіх хмар, што віселі над морам і тундрай. Пачалася цёмная марозная палярная ноч.

Гаспадары мора — маржы і цюлені — вялікімі стадамі паплылі на поўдзень, дзе ў ледзяным пакрывале мора часцей сустракаліся шырокія палонкі.

Толькі белыя мядзведзі не пакінулі непрыветныя тутэйшыя мясціны. Дні і ночы бадзяліся яны па тундры і па марскім лёдзе, то збіраючыся разам, то разыходзячыся. Доўгія гадзіны праседжваў мядзведзь над палонкай у лёдзе, цярпліва чакаючы, пакуль вынырне асцярожная нерпа падыхаць свежым паветрам. І тады адным ударам магутнай лапы ён адкідаў здабычу далёка на лёд, налятаў на яе і прагна з'ядаў.

У гэтыя дні ля самага берага абледзянелага мора, пад высокім пахмурым мысам нарадзілася медзведзянё. Маці яго— старая, вопытная мядзведзіца — яшчэ з восені пабудавала бярлогу сярод каменняў. Восенню ў тундры і на моры было шмат здабычы, і мядзведзіца назапасіла пад жаўтаватай скурай тоўсты слой тлушчу. Яна лягла ў бярлозе, зверху яе засыпаў снег, і было ёй цёпла, і суха, і галоўнае — зусім не хацелася есці.

З'яўленне мядзведзіка ўзрадавала Жоўтаскурую. Быў ён маленькі, мяккі і беленькі — сапраўдны Пушок. Маці песціла яго, аблізваючы шурпатым языком і цэлыя дні слухала ціхае бурчэнне сына. Яна не спяшалася выводзіць яго з бярлогі: там, над снежным дахам, гулялі завірухі, трашчаў мароз, а тут нічога не турбавала іхняга спакою. У дрымотным паўсне думала Жоўтаскурая аб вясне, аб ільдзінах, на якіх будуць яны з Пушком адплываць далёка ад берага, і аб моры з светлай вадой, дзе можна плаваць, то прапуючы лапамі, то спакойна хістаючыся на хвалях.

Мінаў дзень за днём, і Пушку рабілася сумна і цесна ў логаве. Ён рыкаў, драпаў кіпцюрамі снег, непакоіў маці. Нарэшце Жоўтаскурая сама праламала снежны пакроў над галавой: ёй захацелася есці.

Над тундрай стаяла зорная сіняя ноч. Мядзведзіца вылезла з логава і ціхім бурчэннем паклікала Пушка. Ён палез за ёй, нязграбны і палахлівы, і доўга стаяў поплеч з маткаю, унюхваючыся ў незнаёмыя марозныя пахі. Зоркі пасяброўску падміргвалі мядзведзіку, і Пушок перастаў пазіраць на іх. Ён сярдзіта забурчэў, калі ў небе ўспыхнула рознакаляровае паўночнае ззянне, але мядзведзіца жартаўліва стукнула яго лапай па спіне і пагнала да мора.

У гэтую ноч яны не знайшлі нічога. Жоўтаскурай прышлося заглушаць голад выкапанымі з-пад снегу касцямі аленя і кавалкамі яго скуры.

Улетку тут ласаваліся срабрыста-шэрыя палярныя ваўкі, і Жоўтаскурая была



*Над тундрай стаяла зорная сіняя ноч.*

ўдзячна ім за гэтыя рэштці. Яна падсунула да носа Пушка кавалак замёрзлай скуры, але медзведзянё з агідай затрэсла галавою і падалося назад: малако было смачнейшым. Потым яны вярнуліся ў бярлогу. Жоўтаскурая моцна абняла сына лапамі і прыціснула к цёпламу жывату. Яна бачыла ў сне цюленя і аблізвалася, успамінаючы смак свежага мяса.

Раніцою маці павяла Пушка на лёд. Яшчэ здалёк заўважыла яна лёгкі струменьчык пары, і адразу зразумела, што цюлень павінен быць іменна там: так, слупком, пара магла ўзнімацца толькі з аддушыны. Асцярожна зайшоўшы з падветранага боку, каб вецер не данёс да аддушыны яе пах, Жоўтаскурая марудна павяла Пушка сярод ільдзін, прыгінаючыся да самага снегу. Калі паказалася аддушына, яна загадала сыну схавацца за вялікім таросам, а сама адкалупнула лапамі ільдзіну. Распластаўшыся на снезе, мядзведзіца паставіла ільдзіну перад сабой і, хаваючыся за ёю і піхаючы яе лапамі, папаўзла наперад. Марудна, амаль непрыкметна, рухалася Жоўтаскурая, але Пушок цярпліва чакаў, назіраючы, як скарачаецца адлегласць між яго маткай і слупком пары. Ён заўважыў пад вадой, у палонцы, чорную цюленеву галаву з вусамі і гатовы быў крыкнуць ад здзіўлення, але стрымаўся, успомніўшы моцныя штуршкі маці.

А цюлень вылез на лёд, панюхаў паветра, паляжаў ля краю палонкі і зноў боўтнуўся ў ваду. Толькі лёгкі звон пачуўся ў марознай цішыні: гэта разбілася тоненькая скарынка лёду, якой паспела зацягнуцца палонка. Жоўтаскурая папаўзла хутчэй: яна ведала, што цюлень, надыхаўшыся і спакойна нырнуўшы пад лёд, зноў з'явіцца не хутка. Падабраўшыся да самай палонкі, яна паставіла ільдзіну амаль ля самага яе краю і заціхла за ёй, сама падобная на брудны тарос. Так прайшло некалькі хвілін, і зноў у палонцы пачуўся звон маладога лёду, і зноў паказалася чорная галава цюленя. Жоўтаскурая не варушылася.

Цюлень не заўважыў новую ільдзіну: ільдзіны часта мяняюць месца на моры. Чорны гладкі звер абапёрся ластамі аб край аддушыны, пацягнуў носам паветра і выпаўз на лёд. Ён шырока з асалодаю пазяхнуў, і раптам кінуўся да вады. Але было позна: у ваду ўпала ільдзіна, загарадзіўшы палонку, а на месцы ільдзіны раптам вырасла мядзведзіца.

Не паспеўшы крыкнуць, цюлень пакаціўся па лёдзе, аглушаны ўдарам мядзведжай лапы. У тую-ж хвіліну Пушок быў поплеч з маткаю. Яны смачна паелі, і мяса цюленя здалося мядзведзіку смачнейшым за матчына малако.

З гэтага дня яны палявалі разам, і хутка Пушок сам пачаў асочваць цюленяў. Жоўтаскурая навучыла яго апускацца ў ваду і плаваць пад лёдам, навучыла лавіць рыбу, адкопваць з-пад снегу ягады і старыя косці. Мядзведзік вырас, ён ужо даставаў зубамі матчына вуха. Жоўтаскурая ўсюды вадзіла Пушка за сабой, адкрываючы яму новыя і новыя таямніцы краіны спрадвечных ільдоў. Яна любіла гуляць з сынам, але калі толькі ён не слухаўся, мядзведзіца біла яго. І тады Пушок, падымаючы к небу востраносую морду, пачынаў жаласліва выць. Стаміўшыся, ён узлазіў на спіну маці і моцна спаў, абняўшы мядзведзіцу за шыю...

Так міналі дні і тыдні і месяцы. Набліжалася вясна, а з ёю ўсё вастрэй адчуваўся голад. І аднойчы, у пошуках ежы, Жоўтаскурая павяла сына ўзбярэжжам на паўднёвы ўсход.

Ішлі яны дзень і другі, і трэці: маці наперадзе, а сын за ёю, ступаючы след у

след. Часам адпачывалі на снезе, і тады Пушок зноў узбіраўся на матчыну спіну. Іншы раз ім удавалася забіць цюленя, але больш харчаваліся выкапанымі з-пад снегу ягадамі і мохам. А на чацверты дзень не знайшлі нават ягад: пад снегам быў толькі камень. Мядзведзіца вельмі прагаладалася і не пайшла назад, калі натрапіла ў гэты дзень на чалавечы след. Толькі жоўтая поўсць паднялася на яе спіне ды пагражальна ашчэрыліся вялізныя страшныя клыкі.

Абнюхаўшы дзве доўгія, роўныя палоскі лыжнага следу, Жоўтаскурая пастаяла, падумала і нерашуча пайшла па ім. След вёў з тундры, на марскі лёд і ўсё далей і далей па лёдзе — у адкрытае мора. Мядзведзі ішлі доўга, а след усё блытаўся між таросаў, і, здавалася,—яму не будзе канца. Можа Жоўтаскурая і павярнула-б назад, але ёй вельмі хацелася есці, а Пушок пры кожнай затрымцы нецярпліва цягнуўся да пустых матчыных грудзей. І мядзведзіца не спынялася.

У адным месцы снег быў моцна ўтаптаны: тут чалавек адпачываў. Ён пакінуў на снезе паперу, пустую каробку з-пад запалак, хлебныя скарынкі і нават не зусім аб'едзеную костку. Косткай адразу завалодаў Пушок, а мядзведзіца праглынула рэшту.

Жоўтаскурая яшчэ шпарчэй пайшла па следу: голад прыводзіў яе ў злосць.

Яна ведала, што разам з чалавекам ёсць ежа. А толькі ежы хацела мядзведзіца ў гэты дзень. Голад гнаў яе наперад, і Пушок спяшаўся, баючыся адстаць ад маткі.

Хутка наперадзе стала бачна вялізная чорная пляма. Яна сцяной узнімалася над роўным ледзяным полем, і ад яе ішоў пах дыму, ежы і чалавека. Гэта быў параход, сціснуты ледзянымі палямі. На зімоўцы яму належала прастаяць да вясны, пакуль паўднёвы вецер не зломіць і не разгоніць лёд. Жоўтаскурая, асцярожна крадучыся, падпаўзла да самага яго барта, дзе ляжала куча смецця. Пушок гэтак-жа марудна поўз за маткаю. Мядзведзіца не памылілася: тут было шмат ежы. Косткі, хлебныя скарынкі, банкі з-пад кансерваў, рэшткі абедаў і вячэр каманды валяліся, перамешаныя з шлакам. Асабліва смачна пахлі банкі з-пад кансерваў, і мядзведзі пачалі вылізваць з іх рэшткі тлушчу.

Толькі на некалькі хвілін голад прытупіў у мядзведзіцы пачуццё асцярожнасці. Яна глытала ўсё, што паддавалася магутным яе клыкам. Пушок бурчэў ад задавальнення.

Людзі пачулі мядзведзіцу. Раптам на лёд, на кучу смецця, на звяроў упаў асляпляльны сноп пражэктарнага промня.

Жоўтаскурая зараўла, выскаліла клыкі, кінулася прэч ад карабля. Але Пушок, асепплены пражэктарам, уціснуўся ў снег, зажмурыў вочы і заскуголіў. Наверсе закрычалі, затупалі людзі. І зусім нечакана на Пушка апусцілася нешта вялікае, мяккае і абгарнула яго. І, як не вырываўся Пушок, але вырвацца не мог.

Калі людзі скінулі з яго брэзент, Пушок застаўся ляжаць на палубе, баючыся падняцца на ногі. Ён падумаў пра сваю матку і хацеў нават паклікаць яе, але вакол былі людзі, і Пушок не адважыўся падняць галавы. Нехта пагладзіў яго па галаве. Пушок выскаліў зубы, павярнуўся і хацеў ухапіць чалавека за руку.

Прынеслі вялікі ланцуг, прывязалі да яго Пушка і пакінулі на палубе.

У першыя дні ён сумаваў па сваёй маці, але потым забыўся на яе. Маракі вельмі любілі мядзведзіка, смачна кармілі яго, і Пушок палюбіў іх. Калі аднойчы з яго шыі знялі ланцуг, дык ён не кінуўся ўцякаць, а пачаў хадзіць па палубе, забраўся нават на масцік.

Месяцы праз два параход выбраўся, нарэшце, з ільдоў і прышоў у порт. І калі маракі сышлі з палубы на бераг, дык і Пушок падаўся ўслед за імі. Ён ішоў горда і важна. А за Пушком беглі дзеці, здзіўлена разглядаючы яго.



# Вінтоўка Мосіна

Руская трохлінейная вінтоўка па сваёй пабудове самая простая і лепшая з усіх вінтовак свету. Вось ужо больш як поўстагоддзя слаўна служыць яна рускаму воіну. З гэтай вінтоўкай у руках наш народ не аднойчы перамагаў чужаземных захопнікаў. Усякі добры стралок вельмі трапна страляе з яе па далёкіх цэлях. Разам з тым вінтоўка—надзейная зброя ў рукапашнай бойцы. Яна зроблена так, што можа біць ворага не толькі куляй, але штыком і прыкладам.

Хто-ж вынаходнік гэтай вінтоўкі? Вынайшаў яе капітан рускай арміі Сяргей Іванавіч Мосін у 1891 годзе. Да таго часу руская армія была ўзброена вінтоўкай канструктара Бердана. Вінтоўка Бердана («берданка») была адназарадная і патрабавала 2—3 хвіліны на кожную перазарадку. Гэта зніжала баявыя яе якасці, тым больш, што к таму часу амаль усе замежныя арміі карысталіся ўжо шматзараднымі вінтоўкамі. Лепшай вінтоўкай лічылася тады бельгійская. Яна мела пад ствалом магазін, які заражаўся пяццю патронамі.



Капітан Мосін рашыў зрабіць рускую вінтоўку яшчэ лепшай чым бельгійская. Ён доўга працаваў над сваім вынаходніцтвам. І вось у 1891 годзе яго вінтоўка была прынята на ўзбраенне рускай арміі. Яе назвалі трохлінейнай, бо ў яе ствале ёсць тры паралельных паглыбленні (лініі), нарэзаныя вінтом. Па гэтых паглыбленнях рухаецца куля, перш чым вылятае з ствала.



Вінтоўка Мосіна была зроблена так добра, што на працягу многіх год яна служыла без усякіх змен. І толькі ў 1930 годзе ў яе былі ўнесены некаторыя змены, але з выгляду яна засталася такой-жа, якой і была.



## УЗОРЫ НА ШКЛЕ

За ноч на аконным шкле з'явіліся пальмы, папаратнік, казачныя палацы, акружаныя трапічнымі дрэвамі. Гэта мароз размаляваў шкло. Усе гэтыя ўзоры не што іншае, як крышталікі лёду.

Зімой ля вокнаў паветра робіцца халодным, і вадкая пара асядае на шкло цвёрдымі крышталікамі. Ільдзінкі спачатку ўтвараюцца вакол ляроўнасцей шкла. Потым групы ільдзінак разрастаюцца і ўтвараюць той цудоўны казачны малюнак, які бачым мы ў марозныя дні.

## ЦІ ТРАШЧЫЦЬ МАРОЗ?

Ноч. Ціха ў полі, і толькі зоры мігацяць у небе. І раптам чуецца трэск. Людзі кажуць: трашчыць мароз.

На самай справе мароз не трашчыць. Трашчаць дрэвы. У дрэвах замярзае сок і ад гэтага трэскаюцца іхнія галіны і, нават, ствалы.

## ЧАМУ РЫПІЦЬ СНЕГ?

Кажуць: снег зарыпеў пад нагамі — мароз мацнее. Гэта праўда. Калі мароз невялікі, сняжынкі пад нагамі або палазамі санак растаюць нячутна, а потым зноў змярзаюцца. А вось пры моцным марозе сняжынкі не растаюць, а крышацца. Кожная сняжынка пры гэтым ледзь чутна рыпіць. Але мы трапляем нагою не на адну, а на тысячы сняжынак і ледзь чутныя гукі ўтвараюць моцнае рыпенне.

## МАРОЗ І ВЕЦЕР

Усе ведаюць, што ветраны дзень заўсёды халаднейшы бязветранага, хоць-бы нават у бязветраны дзень і мароз быў мацнейшы.

Адбываецца гэта таму, што вецер здувае з твару і рук нагрэтае нашым целам паветра. Яно замяняецца халодным, якое зноў-жа адымае ад нас цяпло.



Вучаніцы Гродненскай школы № 7 Ала Ярашчук (злева) і Галя Касцючэнка акуратна і добрасумленна выконваюць хатнія заданні. Да канца першага поўгоддзя яны прыйшлі з выдатнымі адзнакамі.

Фота А. Дзітлава.

# САНКІ

Палазы робяць з двух гладка выструганых (без сучкоў) дошчачак таўшчынёй у два—два з палавінай сантыметры. Канцы палазоў адпільваюць пад кутом і закругляюць, як паказана на малюнку 1. Знізу да палазоў прыбіваюць жалезныя палоскі. Калі жалеза няма, трэба палазы старанна адшліфаваць шкляной паперай ці скуркай і прасмаліць. Робіцца гэта так. Палазы знізу падаграваюцца над агнём або парай. Затым кістачкай або анучкай наносіцца на іх разагрэтая смала да таго часу, пакуль яна не перастане ўпітвацца ў іх. Ад гэтага палазы робяцца больш трывалымі, лепш слізгаюць.

Зверху для сядзення прыбіваюць дошкі.

Цяпер астаецца зрабіць руль. Ён складаецца з палазка, рукаяткі і планкі, якая злучае руль з санкамі. Палазок вырэзваюць з дошкі па форме і размерах, якія паказаны на малюнку 2. Ніз палазка апрацоўваюць такім-жа чынам, як палазы санак. Рукаятку выпільваюць з дошкі, адшліфоўваюць скуркай або шклом і злучаюць з




бланкай шурупкай з гайкай, так каб руль мог свабодна варочацца. Зверху і знізу планкі падкладваюць шайбы—жалезныя пласцінкі з адтулінамі для цвіка. Потым рукаятку ўрэзваюць у палазок і замацоўваюць нерухома пры дапамозе жалезных скоб і шурупаў. Другі канец злучальнай планкі прымацоўваюць да санак.

# КАНЬКІ

Выраж дзве палоскі жалеза, як паказана на малюнку. Зрабі ў іх дзве дзірачкі. Такія-ж дзірачкі пракруці ў драўляных калодках. Шурупамі прымацуй жалезныя палоскі да дрэва.

Каб канькі можна было прымацаваць да абутку, зрабі бляшаныя запятнікі.



Катанне на каньках здаецца справай лёгкай: прымацаваў канькі і паехаў. Аднак гэта зусім не так. Варта навічку выйсці з канькамі на лёд, як ён амаль на кожным кроку пачынае падаць. Падае ён галоўным чынам таму, што баіцца сагнуць у каленях ногі. А якраз гэта і трэба перш за ўсё зрабіць. Прысеўшы, канькабежац павінен нахіліцца наперад, і тады канькі самі пабягуць па лёдзе. Калі-ж рух замарудзіцца, трэба адштурхнуцца адной, а пасля другой нагой. Канькабежац увесь час едзе галоўным чынам то на правай, то на левай назе. Згінаючы ў гэты час ногі ў каленях, ён не толькі захоўвае роўнавагу, але і павялічвае хуткасць руху.

Часта пачынаючыя канькабежцы адштурхоўваюцца толькі адной нагой. Рабіць гэтага не трэба; трэніруючыся, трэба прывучыць сябе выконваць неабходныя рухі не толькі правай, але і левай нагой.

Калі вы рухаецеся наперад, не націскайце на наскі канькоў. Гэтым вы замарудзіце бег і парушыце роўнавагу.

## СТРУКТУРА ПІОНЕРСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

Усе піонеры Совецкага Саюза знаходзяцца ў адзінай усесаюзнай піонерскай арганізацыі імені Владзіміра Ільіча Леніна.

Работа ў піонерскай арганізацыі праводзіцца на аснове шырокай самадзейнасці і ініцыятывы саміх піонераў. Кожны піонер можа праявіць свае здольнасці да тых заняткаў, якія яму больш спадабаюцца.

У школе, дзіцячым доме або лагеры ствараюцца піонерскія дружыны. Дружына аб'яднае ўсіх піонераў гэтай школы, дзіцячага дома або лагера. Дружыны дзеляцца на атрады, а атрады, у сваю чаргу, на звенні.

Кожны піонер павінен удзельнічаць у рабоце звяна, атрада, дружыны і гэтым самым падтрымліваць чэсць сваёй арганізацыі і апраўдваць высокае званне юнага ленінца.

## ПІОНЕРСКАЕ ЗВЯНО

Звяно—гэта нізавая ячэйка піонерскай арганізацыі. Яна аб'ядноўвае 8—10 піонераў аднаго атрада, звязаных моцнай дружбай і агульнымі інтарэсамі.

Зборы звяна праводзяцца не менш аднаго разу ў дзесяць дзён. На зборах піонеры правяраюць, як кожны з іх вучыцца, займаюцца фізкультурай, спортам, ваеннай справай, для ўсіх карыснай працай, праводзяць гульні, чытаюць кнігі і газеты, ходзяць на экскурсіі, у паходы, рыхтуюцца да атрадных паходаў, ваенных гульняў, спартыўных спаборніцтваў. У звяне піонеры набываюць спартыўныя і працоўныя навыкі, а таксама навыкі, патрэбныя юнаму натуралісту, і піонерскія спецыяльнасці.

У маленькім дружным калектыве піонерскага звяна рэбяты могуць найбольш поўна праявіць сваю ініцыятыву. Калі ў атрадзе добра працуюць звенні, то і ўвесь атрад жыве цікавым, поўнакроўным жыццём. Абавязак піонера—дабіцца таго, каб звяно было лепшым у атрадзе.

Кіруе ўсёй работай звяна важаты звяна. Такім звеннявым павінен быць баявы, энергічны піонер, які добра вучыцца, дысцыплінаваны і карыстаецца пашанай усіх рэбят.

Кожнае звяно мае свой звеннявы сцяжок.

Выбары і справаздачы важатых звенняў праводзяцца адзін раз у год, з 1 па 15 верасня.

## ПІОНЕРСКІ АТРАД

Атрад аб'ядноўвае піонер[illegible] аднаго або двух паралельных кла[illegible] (2—4 звяны, не больш 40 чалаве[illegible]

У атрадзе піонер[illegible] абмяркоўваюць пытанні, звязаныя [illegible] вучобай і паводзінамі піонераў, сл[illegible]аюць гутаркі на палітычныя, на[illegible]ковыя і іншыя тэмы, праглядаюц[illegible] кінофільмы, абмяркоўваюць кнігі, праводзяць паходы, экскурсіі ў прыроду, ваенныя гульні, спартыўныя спаборніцтвы, васкрэснікі. На атрадных зборах вырашаюцца пытанні аб прыёме школьнікаў у рады піонераў і выдачы рэкамендацый піонерам для ўступлення ў комсамол.

Піонерскі атрад выдае насценную газету.

Зборы атрада праводзяцца адзін раз у месяц.

Выбары ў атрадзе праводзяцца ў наступным парадку: спачатку выбіраецца старшыня совета атрада, затым сцяганосец, рэдактар атраднай насценнай газеты і астатнія члены совета.

Совет атрада—гэта школа піонерскага актыва. На зборах совета піонеры пад кіраўніцтвам важатага вучацца правільна і цікава арганізоўваць работу звенняў і ўсяго атрада.

Кожнаму атраду совет піонерскай дружыны прысвойвае парадкавы нумар. Атрад мае чырвоны сцяг, горн і барабан. Камітэтам комсамола прадастаўлена права прысвойваць атрадам імёны выдатных дзеячоў большэвіцкай партыі і совецкай дзяржавы, вялікіх палкаводцаў нашай радзімы, выдатных вучоных, Герояў Вялікай Айчыннай вайны, Герояў соцыялістычнай працы.

Справаздачы і выбары советаў піонерскіх атрадаў праводзяцца адзін раз у год, з 1 па 15 верасня.

## ПІОНЕРСКАЯ ДРУЖЫНА

Дружына аб'ядноўвае ўсе атрады школы, дзіцячага дома, інтэрната, лагера.

Зборы дружыны праводзяцца адзін раз у два месяцы.

Кіруе дружынай совет дружыны, які складаецца з 7—15 чалавек. Совет дружыны выбірае з свайго складу старшыню совета, рэдактара насценнай газеты і сцяганосца дружыны. Старшы важаты ўваходзіць у склад совета дружыны.

Кожная дружына мае свой парадкавы нумар, які прысвойваецца ёй райкомам або гаркомам комсамола. Дружыне можа быць таксама прысвоена імя выдатнага дзеяча большэвіцкай партыі і совецкай дзяржавы, вялікага палкаводца нашай радзімы, выдатнага вучонага, Героя Вялікай Айчыннай вайны, Героя соцыялістычнай працы.

Кожная дружына мае свой сцяг.

Справаздачы і выбары советаў піонерскіх дружын праводзяцца адзін раз у год, з 15 па 25 верасня.

---

ЗМЕСТ



На вокладцы: мал. В Ціхановіча „Перад Новым годам".
На ўкладцы: Партрэт І. В. Сталіна


«Берёзка» — на белорусском языке. Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Пушкіна, 55, Дом друку.

Адказны рэдактар А. Якімовіч.

АТ 01110. Здана ў набор 11/XII—46 г. Падпісана да друку 15/I—47 г. Друк арк. 2.

Друкарня імені Сталіна. Мінск, Пушкіна 55. Тыраж 10.000 экз. Зак. 430.

# ЗІМНЯЯ ПЕСЕНЬКА

Музыка *З. Левінай* Словы *А. Барто*

Мы пес- ню спя-ва- ем аб зім- ніх дзянь-ках, аб
тым, як ка-та- ем- ся мы на кань-ках, аб бе- лых пра-сто-рах, дзе
бе- га-ем мы ма-роз-ны-мі дня-мі зі- мы

ДЛЯ ПАЎТАРЭННЯ ДЛЯ ЗАКАНЧЭННЯ

1. Мы песню спяваем аб зімніх дзяньках,
Аб тым, як катаемся мы на каньках,
Аб белых прасторах, дзе бегаем мы
Марознымі днямі зімы.
2. Мы песню спяваем аб зімніх дзяньках,
Аб сшытках блакітных, аб кнізе ў руках,
Аб дружбе у школе, аб сябры маім,
З якім мы за партай сядзім.
3. Мы песню спяваем аб зімніх дзяньках,
Аб ёлцы святочнай, аб яркіх сцяжках,
Аб тым, як са школы бяжым мы гурбой.
Выдатна, рэбяты, зімой!

